# ПАРТЫЗАНСКАЯ ВЫПРАВА ПАЛКОЎНІКА СТЭФАНА ГРАБОЎСКАГА НА БЕЛАРУСЬ У 1794 ГОДЗЕ

*(заканчэнне)*

Падпалкоўнік Фелікс Сабескі, прызнаны смаленскім ваенным судом "ворагам сваёй Айчыны", быў асуджаны па 7-й катэгорыі злачынстваў у высылку у Вужэнскі край. Той жа самай кары быў падвергнуты маёр Адам Неляпец. Капітана Гаўласінскага асудзілі па 8-й катэгорыі жыць у глыбі Расіі. Падобная кара напаткала паручніка Вярыгу Дароўскага *(указ ад 20.06. 1795 г.)*, які вярнуўся ў край верагодна па ўказу Паўла I ад 29.11. 1796 г., пасля чаго ўступіў у легіёны Дамброўскага, дзе ў 1801 г. быў шэфам брыгады 1-га легіёна.[1] Пасля падзення Напалеона Дароўскі застаўся ў польскім войску і быў генералам брыгады. У 1826 г. атрымаў пасаду галоўнага дырэктара міністэрства вайны. Пад час вайны 1830–1831 гг. быў чынным брыгадным генералам.

Нягледзячы на смутны вынік, партызанская акцыя палкоўніка Грабоўскага адыграла ў літоўскай інсурэкцыі 1794 г. важную ролю, рассякаючы па прынцыпу "будзь што будзе" расійскія сілы і прыпыняючы хаця на пэўны час здзяйсненне іх марша на Варшаву. Нарэшце, з'яўленне партызанскага аддзела ў тыле расійскіх войск зрабіла дэмаралізуючы ўплыў на каманду і ўладу акупантаў. Расійскі мемуарыст Энгельгардт, які ў 1794 г. быў палкоўнікам, апавядаў, што вяртаючыся на той час са свайго палка, стаяўшага пад Брэстам, ён застаў усіх расіян у Мінску ў пастраху, а жанчын – у слязах ад страху; прыбыўшы ж у Нясвіж, дзе стаў корпус генерала Кнорынга, стаў сведкам вялікага замяшання. Кнорынг угаворваў Энгельгардта застацца ў Нясвіжы, але паколькі той не жадаў згаджацца, паведаміў: "Бачу, палкоўнік, што не жадаеш гінуць разам з намі і баішся палякаў".[2] Архірэй ад страху перад палякамі надумаў патаемна выбрацца са Слуцка на Украіну і з гэтаю мэтай у ноч з 15/26 на 16/27 жніўня вырушыў да Бабруйска. За 4 мілі ад Слуцка ён напаткаў быццам бы аддзел польскіх партызанаў. З клопату аб тым, каб яго не спаткаў лёс Касакоўскага, ён хуценька вярнуўся ў Слуцк. Аднак архірэй Садоўскі нядоўга цешыўся спакоем: ледзь толькі хутка з'явілася ў Слуцку звестка, што палякі ўжо ля варот месца, яго агарнуў нязмерны страх. Як ён сам піша: "без памяці" пераляцеў з сабора, быўшага за выганам месца, да слуцкай твярдыні, ацэпленай тады расійскай залогай, дзе доўгі час праваляўся цяжкахворым. Страх не пакідаў яго цэлыя 6 тыдняў. Кватэраваў не ў сябе, а ў пратапопа ў месцы.[3]

---

[1] Korzon T. Dzieje wojskowości. T. 3, s. 320, 375.
[2] Там жа, s. 383, 391.
[3] Рункевич. История минской архиепископии. С. 201, 202.

Хаця ўсякія высылкі патрыётаў былі безвыніковыя і на жаль не маглі выратаваць гінучую Рэч Паспалітую, аднак і афіцэрам і жаўнерам аддзела Грабоўскага трэба аддаць належнае за іх багатырскую выправу. Рэгулярная кавалерыя аддзела палкоўніка Грабоўскага складалася пераважна з літоўскіх татараў. Афіцэры 1-га палка пярэдняй варты войск ВКЛ і палка Аляксандра Улана, а таксама большасць падафіцэраў і таварышаў, былі радавітымі літоўскімі татарамі, маючы за сабой двухгадовую ваенную практыку і вялікія заслугі перад польскай Рэччу Паспалітай. Таму лічым слушным падаць далей імёны і кароткія жыццяпісы тых непрыкметных волатаў касцюшкоўскай інсурэкцыі на Літве.

**Аляксандр Улан гербу Улан**. Гэты дзейны жаўнер, паходзячы са старажытнага і слаўнага роду татар Уланаў, быў сынам Газея Улана, ротмістра надворнага палка ў 1748 г.[1] Аляксандр ужо ў 1760 г. стаў ротмістрам у надворным палку. У 1767 г. яго татарская харугва, маючы 60 чал. камплекту, а фактычна толькі 16 таварышаў і 17 паштовых, кватэравала ў Апочні, у наступным 1768 г. улілася ў полк пярэдняй варты каронных войск, сфарміраванага па распараджэнню караля Арнольдам Бышэўскім.[2] Паколькі ў тым самым палку была таксама харугва Ёзафа Улана *(кроўнага Аляксандра па іншай лініі)*, то для адрознення ротмістра сталі зваць "старшым уланам", а Ёзафа ж "малодшым уланам". У 1790 г. Аляксандр стаў маёрам у тым жа палку пярэдняй варты украінскай дывізіі.[3] Калі ў 1792 г. выбухнула польска-расійская вайна і сейм ухваліў стварэнне двух новых татарскіх палкоў для баявых дзеянняў, Аляксандр у "ноце" да камісіі вайсковай абодвух народаў ад 20 мая бягучага года ўзяўся рэкрутаваць 500 татар у конны полк.[4] Уласна Улан стварыў новы татарскі полк, у якім стаў падпалкоўнікам. У сувязі з гэтым падаю "рапарт аб навербаваных" з палка Аляксандра Улана за 1792 г. У ім знаходзім акрамя Аляксандра яшчэ 7 іншых Уланаў афіцэрскага рангу. У вайну 1792 г. полк Улана, гэтак жа як і полк Азулевіча, па віне караля не адыграў значнай ролі, а пасля заключэння міру ардынансам гетмана Касакоўскага быў уключаны ў 1 полк пярэдняй варты.[5] У касцюшкоўскай інсурэкцыі 1794 г. Аляксандр Улан у рангу палкоўніка старанна служыў нарадовай справе. Адзін з тагачасных мемуарыстаў спамінае, што "пры вызваленні Літвы ў дапамогу генералам Ясінскаму і Грабоўскаму вельмі прыклалі рук палкоўнікі татарскія: Бараноўскі, Улан і іншыя.[6] У ліпені 1794 г. камісія прэнскага павета заклікала двух братоў татар Уланаў

---

[1] Dziadulewicz St.. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S. 351.
[2] Gyrski K. Historia jazdy polskiej. Kraków, 1895, s. 347.
[3] Dziadulewicz St.. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S. 350, 351.
[4] Tugan Mirza Baranowski S. Z aktyw wojskowych o tatarach litewskich (1782–1792) // Ateneum Wilenskie. Rocz. 1929, № 1–2, s. 223–224.
[5] ДАСА, кн. 18289, л. 1251.
[6] Kosmowski St. Pamiętnik // Pamiętniki z XVIII w. Poznań, 1867, t. 8, s. 45.

*(надзейных Аляксандра з братам Газеем)* узяць пад каманду аддзел конных рэкрутаў 50-дымовых. "Я быў сведкам, – апавядае карэспандэнт адной з тагачасных газет, – як палкоўнік Улан адразу стаў з 200 людзьмі перад камісіяй (прэнскай), а адзін з камісараў, пробашч таго месца, вядомы патрыёт абывацель Карповіч у расчуленай і стараннай прамове вітаў тое рыцарства і натхняў іх да абароны. Палкоўнік Улан сціпла і выразна адказаў з цудоўнай прастатой: "Ахвяруем на абарону абывацеляў нашае жыццё". Гэтае відовішча выціснула слёзы пяшчотнасці радаснага люду".[1] Прэнская язда палкоўніка Улана разставіла пікеты і патрулі на 8 міляў вакол Прэн дзеля недапушчэння захопу гродзенскага і каралеўскага трактаў расіянамі, а калі ў канцы ліпеня або напачатку жніўня вышэйшае кіраўніцтва інсурэкцыйных войск засланіла Прэнскі павет аддзеламі рэгулярнага войска, палкоўнік Улан на чале свайго коннага аддзела злучыўся з корпусам палкоўніка Стэфана Грабоўскага і разам з ім распачаў 15 жніўня дыверсійную выправу на Беларусь. Аляксандр Улан быў уласнікам большай часткі маёнтка Паляны ў Ашмянскім павеце, які набыў у 1769 г. у Данілы Крычэўскага. Па назве гэтага маёнтка ён сам і яго нашчадкі, зраднёныя з Яленай Крычынскай *(дзве дачкі і тры сыны)* пісаліся Уланамі-Палянскімі. Калі памёр – невядома.

**Мустафа Ахматовіч гербу Ахмат**. Сын ротмістра лёгкай кавалерыі Біляла і Мар'яны Уланаў, ад маці набыў у 1789 г. маёнтак Бараўшчызну ў Кальварыйскім павеце.[2] У 1786 г. Мустафа Ахматовіч быў ротмістрам 2-й харугвы ў 4-м палку пярэдняй варты ВКЛ *(шэф – генерал Ёзаф Бяляк)* пад камандай маёра Мустафы Ахматовіча гербу Котвіц.[3] Не трэба змешваць гэтых двух аднафамільцаў, з якіх другі памёр ад ран, атрыманых пад Мацееўцамі палкоўнікам і водцам 4-га палка пярэдняй варты.[4] Той жа Мустафа Ахматовіч, аб якім ідзе гаворка, пад час касцюшкоўскага паўстання 1794 г. быў падпалкоўнікам у тым самым палку. У маі гэтага ж года падпалкоўнік Ахматовіч быў пасланы з корпуса генерала Беляка, кватэраваўшага тады ў Слоніме, да Новай Мышы з 300 кавалерыстамі. У Новай Мышы авангард кн. Цыцыянава нанёс аддзелу палкоўніка Ахматовіча паразу. Страціўшы 15 чалавек забітымі і 2 палоненымі, ён мусіў адыйсці з мястэчка.[5] У жніўні падпалкоўнік Ахматовіч на

---

[1] Korrespondent narodowy zagraniczny, № 68 (з Варшавы 26.08. 1794), s. 151, 152; Korzon T. Dzieje wojskowości. T. 6, s. 14.
[2] Dziadulewicz St.. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S.252, 351.
[3] Tugan Mirza Baranowski S. Z aktów wojskowych o tatarach litewskich (1782–1792) //Ateneum Wilenskie. Rocz. 1929, № 7, s. 212, 213.
[4] Dziadulewicz St.. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S. 12, 13.
[5] Энгель А. Описание дел, хранящихся в архиве виленского генерал-губернаторства. Вильно, 1870, т. 1, ч. 2, с. 947. Сакрэтны ліст генерала Цімафея Іванавіча Туталміна кн. Рэпніну ад 15 мая 1794 г.; Mościcki H. Dzieje porozbiorowie Litwy i Rusi. Wilno, 1913, t. 1, s. 204.

чале каманды з палка Беляка злучыўся з аддзелам палкоўніка Стэфана Грабоўскага і па яго загадах прыняў удзел у дыверсійным маршы на Беларусь. Пад Любанню ён трапіў у палон да расійцаў, у яком знаходзіўся яшчэ ў 1795 г.[1] У вялікім 1812 г. Мустафа Ахматовіч быў адным з арганізатараў эскадрона літоўскіх татар, далучанага потым да польскага лёгкаконнага палка гвардыі імператара Напалеона.[2] Ад жонкі Разаліі з Даўгілаў пакінуў трох сыноў.[3]

**Ёзаф Крычынскі,** сын ротмістра Давыда, уласніка часткі Крычына і некалькіх маёнткаў у Ашмянскім павеце, і Ганны з Сулкевічаў, патэнт на сапраўднае ротмістра атрымаў 27 студзеня 1766 г. Да 1786 г. быў ротмістрам у 6-й харугве 1-га палка пярэдняй варты ВКЛ пад камандай палкоўніка Мустафы Бараноўскага.[4] Здаецца, што менавіта ён быў тым самым ротмістрам Крычынскім, які загадам польнага літоўскага гетмана ад 4 лютага 1772 г. з ротмістрамі Сулкевічам і Радзевічам быў назначаны выбраць жалаванне з гіберны і падымнага ў Ашмянскім павеце. Калі полк першы пярэдняй варты перайшоў пад каманду палкоўніка Міхала Кіркора, Ёзаф Крычынскі стаў камандзірам 5-й харугвы. У гэтай якасці правёў кампанію ў аддзеле палкоўніка Грабоўскага. У бітве пад Любанню трапіў у няволю. Ёзаф Крычынскі, уласнік Каскевіч Чорных і Дольных, жанаты на ўдаве брата Эльяша, Сафіі Бараноўскай, уласніцы Рымцеляў і часткі Даўбуцішак у Ашмянскім павеце, меў 7 сыноў і 3 дачок.[5] Даты яго смерці не ведаем.

**Аляксандр Халецкі,** татарын гербу ўласнага і дома Урман-Эміра, у 1788 г. быў паручнікам у палку каралеўскай гвардыі. Верагодна, гэты самы Халецкі у 1794 г. быў паручнікам у каронным палку Аляксандра Улана. У бітве пад Любанню трапіў у няволю да расіян. У 1812 г. Аляксандр Халецкі быў адным з чыннейшых арганізатараў эскадрона татарскай язды лёгкай пад штандарамі Напалеона.[6]

У заключэнне дадзенага нарыса змяшчаю два вайсковыя рапарты, звязаныя непасрэдна з выправай палкоўніка Стэфана Грабоўскага на Беларусь. Першы дакумент прадстаўляе склад 1-га палка пярэдняй варты *(татарскага)* пад камандай палкоўніка Кіркора ў 1794 г. Другі

---

1 Mościcki H. General Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa, 1917, s. 388.

2 Kukiet M. Dzieje wojska polskiego w dobie napoleonskiej 1795–1815. Warszawa, 1920, t. 2, s. 56.

3 Dziadulewicz St.. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S. 9–10, 173, 175.

4 АГГР, кн. 18282; Krzyczynski S. Materiały do historii pułków tatarskich w Polsce //Rocznik tatarski. Wilno, 1932, t. 1, s. 279, 280.

5 Dziadulewicz St.. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S.175, 78.

6 Dębicki. Pulawy. T. 2, s. 176; Dziadulewicz St.. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929. S.78.

паходзіць з 1792 г. і толькі ў агульных рысах можа служыць для ўяўлення стану палка Аляксандра Улана пад час выправы Грабоўскага.

Рапарт палка яго каралеўскай мосці 1-га пярэдняй варты войск ВКЛ каманды палкоўніка Кіркора з 15 лютага да 16 сакавіка 1794 г. з Відзаў.[1]

## Вышэйшы штаб

Палкоўнік Міхал Кіркор, патэнт 20 сакавіка 1790 г.
Падпалкоўнік Ёзаф Васоўскі, патэнт 23.08. 1793 г.
Маёр Ігнаці Эйдзятовіч, патэнт 21.01. 1791 г.
Маёр Якуб Бараноўскі, патэнт 19.04. 1791 г.

## Сярэдні і ніжэйшы штаб

Кватэрмайстр Захар Карыцкі, патэнт 1792 г.
Аўдзітар – вакансія.
Ад'ютант Міхал Мілашэвіч, патэнт 12.07. 1793 г.
Капелан кс. Фелікс Пшэвускі
Мулла Мустафа Лявінскі[2]
Палкавы фельшар Фрыдрых Ніса
Штаб-фур'ер Станіслаў Дубавінскі
Штаб-трубач Ёзаф Лісічынскі
Канавал Мартын Віллер
Прафос Ян Філіповіч
Падпрафос Мартын Клепацкі

## Сапраўдныя ротмістры

Абрахам Райжэўскі, патэнт 24.01. 1766 г.
Ёзаф Крычынскі, патэнт 27.01. 1766 г.
Антон Мілашэвіч, патэнт 8.05. 1779 г.
Ян Ахматовіч, патэнт 19.04. 1790 г.

## Сапраўдныя штаб-ротмістры

Мустафа Крычынскі, патэнт 10.05. 1792 г.
Самуэль Талькоўскі, патэнт 10.04. 1791 г.
Абрахам Бараноўскі, патэнт 19.04. 1791 г.

## Сапраўдныя паручнікі

Аляксандр Сюлькевіч, патэнт 21.01. 1786 г.
Януш Заблоцкі, патэнт 16.03. 1790 г.
Захарыуш Улан, патэнт 16.03. 1790 г.
Мустафа Бараноўскі, патэнт 10.04. 1791 г.

---

[1] ДАСА, кн. 18289, с. 1258.
[2] Можа Лудзінскі? Мустафа Лудзінскі фігуруе ў попісу гродзенскай шляхты ў 1765 г. Татарскі радавод Лявінскіх невядомы.

Захарыуш Улан, патэнт 11.04. 1791 г.
Мустафа Карыцкі, патэнт 12.04. 1791 г.
Якуб Сулькевіч, патэнт 19.04. 1791 г.
Шыман Ахматовіч, патэнт 10.02. 1793 г.

## Сапраўдныя харужыя

Даніэль Заблоцкі, патэнт 23.01. 1766 г.
Януш Смольскі, патэнт 16.03. 1790 г.
Абрахам Крычынскі, патэнт 17.03. 1790 г.
Аляксандр Бараноўскі, патэнт 18.03. 1790 г.
Давыд Бараноўскі, патэнт 11.04. 1791 г.
Самуэль Крычынскі, патэнт 19.04. 1791 г.
Феліцыян Бярэцкі, патэнт 1792 г.
Ян Сапоцька, патэнт 18.05. 1793 г.

## 1-я харугва *(палкоўніцкая)*

Палкоўнік Міхал Кіркор
Штаб-ротмістр Мустафа Крычынскі
Паручнік Мустафа Карыцкі
Харужы Самуэль Крычынскі
Наместнік Пётр Завадскі
Віцэ-наместнік Дыянісі Слуцкі
Таварыства – 33 чал., 30 коней
Вахмістры Ян Акунеўскі, Ян Шыдлоўскі,
Ян Рачкоўскі, Барталамей Адукевіч
Трубач Габрыэль Невядомскі
Фельшар Якуб Ядлоўскі
Шараговых 36 чал., коней 31

## 2-я падпалкоўніцкая харугва

Падпалкоўнік Ёзаф Васоўскі
Штаб-ротмістр Самуэль Талькоўскі
Паручнік Захар Улан
Харужы Януш Смольскі
Наместнік Ян Талькоўскі
Віцэ-наместнік Тадэвуш Пржэдпільскі
Таварыства 38 чал., 38 коней
Вахмістры Ёзаф Навіцкі, Лявон Якубоўскі, Войцех Стэфаноўскі, Андрэй Заторскі, Ёзаф Жукоўскі
Трубач Андрэй Странеўскі
Фельшар Антон Пяткоўскі
Сядляр Мацей Левандоўскі
Каваль Ян Фрыдрых
Шараговых 33 чал., коней 33

## 3-я маёрская харугва

Маёр Якуб Бараноўскі
Штаб-ротмістр Абрахам Бараноўскі
Паручнік Захар Улан
Харужы Аляксандр Бараноўскі
Намеснік Франц Курповіч
Віцэ-намеснік Ян Крычынскі
Таварыства 35 чал., коней 25
Вахмістры Ёзаф Крычынскі,
Станіслаў Балтрукевіч, Андрэй Міхайлоўскі
Трубач Клеманс Мацюнскі
Фельшар Якуб Лейман
Сядляр Лукаш Галембіўскі
Каваль Мацей Левандоўскі
Шараговых 27, коней 26

## 4-я харугва ротмістра Райжэўскага

Ротмістр Абрахам Райжэўскі
Паручнік Шыман Ахматовіч
Харужы Даніэль Заблоцкі
Намеснік Якуб Райжэўскі
Віцэ-намеснік Вінцэнт Стаўгіла
Таварыства 36, коней 35
Вахмістры Шыман Васілеўскі,
Франц Бабінскі, Габрыэль Мазалевіч
Трубач – вакансія
Фельшар Якуб Златоўскі
Сядляр Станіслаў Лісоўскі
Каваль Мацей Мікульскі
Шараговых 33, коней 25

## 5-я харугва ротмістра Ёзафа Крычынскага

Ротмістр Ёзаф Крычынскій
Паручнік Якуб Сюлькевіч
Харужы Феліцыян Бярэцкі
Намеснік Давыд Крычынскі
Віцэ-намеснік Іаяхім Сушынскі
Таварыства 37, коней 37
Вахмістры Войцех Квяткоўскі, Дамінік Ігнатовіч, Мікалай Цеханоўскі, Каспар Арцымовіч, Ян Філіповіч
Шараговых 30, коней 26

### 6-я харугва ротмістра Мустафы Крычынскага

Ротмістр – вакансія
Паручнік Аляксандр Сюлькевіч
Харужы Абрахам Крычынскі
Намеснік Эліяш Крычынскі
Віцэ-намеснік Ёзаф Воўк
Таварыства 36, коней 34
Вахмістры Мартын Маскевіч, Якуб Зянкевіч,
Ян Вільчэўскі, Іаяхім Пяляўскі
Трубач Станіслаў Вінагродскі
Шараговых 30, коней 14

### 7-я харугва ротмістра Антона Мілашэвіча

Ротмістр Антон Мілашэвіч
Паручнік Януш Заблоцкі
Харужы Давыд Бараноўскі
Намеснік Абрахам Карыцкі
Віцэ-намеснік Шыман Мілашэвіч
Таварыства 35, коней 16
Вахмістры Ян Кубальскі, Андрэй Васілеўскі,
Ян Сукутовіч
Трубач Ізідор Івашкевіч
Шараговых 23, коней 18

### 8-я харугва ротмістра Яна Ахматовіча

Ротмістр Ян Ахматовіч
Паручнік Мустафа Бараноўскі
Харужы Ян Сапоцька
Намеснік Аляксандр Улан
Віцэ-намеснік Ёзаф Місевіч
Таварыства 31, коней 23
Вахмістры Ёзаф Мінігауз, Ежы Барташэвіч,
Вінцэнт Сіпайла
Трубач Антон Клішэўскі
Шараговых 30, коней 26

Рапарт аб зербаваных ад палка кавалерыі Аляксандра Улана, новапастаўленага падпалкоўнікам татарскім пярэдняй варты яго каралеўскай мосці і Рэчы Паспалітай, камандуючага ў шаноўную вайсковую камісію абодвух народаў паданы.[1]

---

[1] ДАСА, кн. 18289, с. 1234, 1251. Рапарт з 1792 г. Rocznik tatarski. Wilno, 1935. T. 2, s. 327-350.

### Штаб і афіцэры

Падпалкоўнік Аляксандр Улан
Кватэрмайстр Аляксандр Яблонскі
Ад'ютант Давыд Улан
Мулла Ян Халембікіевіч
Ротмістры Газей Улан, Ян Вільчынскі, Ёзаф Улан
Штаб-ротмістр Мустафа Улан
Паручнікі Абрахам Карыцкі, Шыман Ахматовіч, Аляксандр Маршалкевіч
Харужыя Міхал Карычынскі, Самуэль Маршалкевіч, Ёзаф Ябланоўскі, Ээльяш Багдановіч
Намеснікі Аляксандр Улан, Абрахам Базароўскі, Якуб Улан, Самуэль Абрагімовіч

Паднамеснікі: Самуэль Улан, Самуэль Янкевіч, Шыман Багушэвіч, Ёзаф Смульскі, Самуэль Яблонскі, Эльяш Ясінскі, Валенці Шыпоўскі, Ян Мількоўскі, Міхал Абрагімовіч, Антон Казьмінскі, Ян Вудрыгоўскі, Яцэнт Жаброўскі, Мартын Тушка, Віктар Цішэўскі, Шыман Велаблоцкі

Тавырыства: Валенці Краеўскі, Антон Камінскі, Мацей Мужынскі, Ян Паўліцкі, Антон Зайкоўскі, Антон Мараўскі, Караль Мураўскі, Якуб Раман, Войцех Мілеўскі, Францішак Ракоўскі, Міхал Камароўскі, Антон Чаплінскі

Шараговыя: Францішак Лючынскі, Францішак Бела, Ёзаф Кулімовіч, Матэвуш Сяркоўскі, Войцех Вайкевіч, Ёзаф Раковіч, Мацей Яблонскі, Хрыстафор Цібароўскі, Ян Мілеўскі, Антон Захаровіч, Ежы Белагрыўка, Антон Харужы, Стэфан Сталовіч, Якуб Будкевіч, Барталамей Васілеўскі, Якуб Малакерскі, Казімір Рапніцкі, Андрэй Рачынскі, Казімір Анушкевіч, Ёзаф Савіцкі, Матэвуш Дуброўскі, Антон Казьмінскі

**Тадэвуш Стрыкеніч-Корзан**
Пераклад з польскай мовы Яўгена Анішчанкі



# ІСЛАМ І АДУКАЦЫЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН

Многія дзесяцігоддзі ў Беларусі, як і ў іншых раёнах былога СССР, рэлігія знаходзілася на перыферыі грамадскай думкі. Больш таго, народ пераконвалі, што рэлігія ёсць ідэйны праціўнік, сацыяльнае і маральнае зло, якое перашкаджае будаваць камуністычнае грамадства. У гады фармавання постсацыялістычнага грамадства вернікам усіх канфесій нібыта было дазволена вызнаваць сваю веру,

маліцца ў храмах, навучаць дома дзяцей асновам рэлігіі. Але нацыяналізаваная царкоўная маёмасць, нават калі яна да гэтага часу ўцалела, вяртаецца вернікам вельмі неахвотна, а для некаторых канфесій і зусім не вяртаецца.

І ўсё ж зрух у адносінах да вернікаў і святароў ёсць. Сёння ўжо рэлігія і яе інстытуты разглядаюцца як сацыякультурная з'ява, што нясуць у сабе пазітыўныя пачаткі і функцыі, з'ява, якая мае гістарычную будучыню.

У веравызнаўчай шматколернасці вылучаецца Іслам – самая маладая з сусветных канфесій. Іслам не з'яўляецца новай рэлігіяй. Іслам – гэта тая ж ісціна, якую Усявышні Творца адкрыў усім народам праз сваіх пракрокаў. Для адной пятай насельніцтва свету Іслам з'яўляецца адначасова і рэлігіяй і ладам жыцця. Мусульмане вызнаюць рэлігію міру, міласэрнасці і міласцівасці, і сапраўдныя мусульмане не маюць нічога агульнага з тымі крывавымі падзеямі ў свеце, з якімі людзі пачалі атаясамліваць Іслам.

Слова "іслам" у перакладзе з арабскай мовы азначае "пакорлівасць" і з'яўляецца вытворным ад слова, што азначае "мір". У чыста рэлігійным кантэксце "Іслам" тлумачыцца як поўная адданасць сябе Богу і Яго волі. Бог у перакладзе на арабскую мову – Аллаг – слова, якім карыстаюцца і мусульмане, і хрысціяне *(пры перакладзе хрысціянскай літаратуры на арабскую мову)*. Іслам можа падацца экзатычнай або новай экстрэмісцкай рэлігіяй у сучасных умовах. Магчыма гэта таму, што сёння рэлігія страціла дамінуючую ролю ў паўсядзённым жыцці краін Захаду. Мусульмане ж заўсёды ставілі рэлігію на першае месца. Яны вераць у тое, што людзі павінны сур'ёзна ставіцца да Божага права – шарыяту. Вось чаму ўсё, што датычыцца рэлігіі, так важна для нас, мусульман, сёння.

Зусім бясспрэчным з'яўляецца той факт, што рэлігія служыла і служыць адукацыі чалавецтва. Усе монатэістычныя рэлігійныя вучэнні, разам са сцвярджэннем ідэі адзінабожжа, на высокае месца ставілі асветніцтва і адукацыю. Першае, што зрабіў Усявышні Аллаг пасля таго, як стварыў нашага прабацьку Адама і ўдыхнуў у яго душу, Ён навучыў яго назвам усяго таго, што акружала яго ў раі. Нават анёлам былі невядомымі гэтыя назвы, а чалавек па волі Усявышняга ўдастоіўся такой высокай узнагароды.

Для таго, каб зразумець, якое значэнне Іслам як веравучэнне надае ведам і асвеце, мы павінны перш за ўсё звярнуцца да галоўнай крыніцы – Адкравення Усявышняга – Свяшчэннага Кур'ану. Першае ўказанне, якое было дадзена Усявышнім Аллагам прароку Мухаммеду *(мір яму і міласць Усявышняга!)* выказана адным словам "Ікра" – "Чытай".

"У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!
Чытай у імя Госпада твайго, Які стварыў,
Стварыў чалавека са згустка крыві,
Чытай, бо Уладыка твой шчодры,
Які даў веды пісьмовай трысцінай (калямам)
Даў чалавеку ведаць тое, чаго ён раней не ведаў".[1]

Адной гэтай цытаты *(гэтых аятаў)*, відавочна, было б дастаткова для таго, каб зразумець, якое значэнне маюць веды ў Ісламе. Самае першае слова, самы перш загад Усявышняга свайму пасланніку гучыць: "Чытай!" Гэта яснае ўказанне прароку Мухаммеду *(мір яму і міласць Аллага!)*, які быў непісьменным, які не ўмеў чытаць і пісаць, прадпісвала яму і ўсім тым, хто пойдзе за ім, рушыць да ведаў, да ўзбагачэння свайго розуму. Усявышні Аллаг падкрэслівае, што галоўнымі з тых шчодрасцей, якімі Ён адарыў род чалавечы пасля яго сатварэння, былі веды: не ежа, не багацце, не прыгажосць, а веды.

Веды для Усявышняга Аллага з'яўляюцца той меркай, тым крытэрыям, па якім Ён будзе судзіць аб учіх верніках. І менавіта аб гэтым сказана ў суры "Аль-Муджадзілях" *("Спрачаючаяся")*: "Аллагу ллязіна аману мінкум уа ллязіна ыльмада раджатан, уа Аллагу біма таамауна хабірун", што азначае: "Аллаг узвышае тых з вас, хто ўвераваў і тых, каму дадзены веды, на высокія ступені".[2]

Вера і веды – вось два асноўныя патрабаванні, якія Усявышні ставіць перад людзьмі. Вера зробіць людзей праведнымі і чыстымі і ў гэтым жыцці і ў жыцці будучым, а веды ўзнімуць іх на высокае месца. Менавіта такім быў лепшы з сыноў Адама і Евы прарок Мухаммед *(мір яму і міласць Аллага!)*.

"Аузу біллягі міна шайтані раджым. Кама арсальна фіікум расулян мінкум ятлю алейкум аятіса уа юзакікум уа ю'алімукумуль кітаба уаль хікумаці уа ю'алімукум ммалям такуну та'алямун", што азначае: "Мы паслалі да вас пасланнікам аднаго з вас, ён чытае вам Нашы адкравенні, робіць вас чыстымі, вучыць вас пісанню і мудрасці, вучыць вас таму, чаго вы раней не ведалі".[3]

З прыведзеных аятаў Свяшчэннага Кур'ана зразумела тое значэнне, якое надаецца ў Ісламе навуцы і асвеце. Прарок Мухаммед *(мір яму і міласць Усявышняга!)* быў непісьменным, але ён добра разумеў, што без адукацыі, без навукі мусульмане не здолеюць стаць сапраўднымі вернікамі. Вось некалькі дакладных хадзісаў, г.зн. выказванняў самога Прарока аб карысці ведаў.

"Імкненне да ведаў з'яўляецца абавязкам кожнага мусульманіна і кожнай мусульманкі".

---

[1] Кур'ан. Пераклад акадэміка І.Ю.Крачкоўскага. М., 1990. Сура 96, аяты 1–5.
[2] Кур'ан. Сура 58, аят 12.
[3] Кур'ан. Сура 2, аят 146.

Прычым Пасланнік Аллага *(мір яму і міласць Усявышняга!)* падкрэслівае, што гэты абавязак ляжыць на мусульманіне ў любы час і ў любым месцы:

"Шукайце веды ад калыскі да магілы. Шукайце навуку, нават каб яна знаходзілася і ў землях Кітая. Хто жадае раскошы ў гэтым свеце, той няхай займаецца гандлем, а хто жадае асалоды ў тым свеце, тот няхай шукае ўстрымання і набажнасці, а хто жадае асалоды абоіх светаў – няхай шукае яе ў навуцы і ведах".

Такім чынам, з прыведзеных хадзісаў відаць, што Іслам – гэта вера, якая заве да света ведаў і выводзіць людзей з цемры невуцтва. Пра тое, што адукацыя, асветніцтва і навукі з'яўляюцца аднымі з самых высакародных і спрыяльных заняткаў, гаворыцца яшчэ ў многіх хадзісах Пасланніка Аллага *(мір яму і міласць Усявышняга!)*:

"Той, хто ідзе ў дарогу з мэтаю пошуку навукі і ведаў, таму Аллаг адчыніць шляхі да раю і анёлы ахінаюць яго крыламі сваімі, паважаючы і ўшаноўваючы шукальніка, за вучонага моляцца на небе і на зямлі, нават рыбы ў вадзе. Перавага вучонага-дабрадзея перад багамольцам, які сядзіць у адасабленні, не траціць свае веды на карысць грамадства,[1] велзарная розніца паміж імі такая ж, як паміж поўным месяцам і зоркамі. Сапраўды, вучоныя па сутнасці нашчадкі прарокаў (варасатул-анбія). Пракокі не атрымлівалі і не пакінулі ў спадчыну ні дзірхамаў, ні дзінараў, а спадчына іх ёсць толькі веды і вучэнне".

Адзін з паплечнікаў прарока Мухаммеда *(мір яму і міласць Аллага!)* Абузар успамінаў, што Прарок яму казаў: "О, Абузар! Калі ты будзеш вывучаць кожную раніцу хаця б па адной суры з Кур'ана, то гэта будзе лепш, чым твае пакланенні ў малітвах сто разоў, а таксама ранішнія заняткі навукамі, будзе ў іх патрэба альбо не, усё роўна, гэта лепш для цябе, чым тысячы разоў паклонаў у малітвах"[2] "Мудрасць – гаварыў Прарок (мір яму і міласць Усявышняга!), – дадае ганаровым гонар і веліч, а раба-слугу ўзвысіць да таго, што раб удастоіцца быць прынятым у сходах і палацах цароў". Паплечнік Прарока (мір яму і міласць Усявышняга!) Абдуллах бен Масуд перадае словы Прарока (мір яму і міласць Аллага!): "Хто навучыцца якім-небудзь навукам з мэтаю навучыць іншых, таму Бог дасць спасенне (уратаванне) сямідзесяці святых".

З гэтых хадзісаў Прарока *(мір яму і міласць Аллага Усявышняга!)* відаць, якую важнасць надаваў Мухаммед Прарок *(мір яму і міласць Аллага!)* адукацыі. Чалавек адукаваны, на яго думку, стаіць не толькі вышэй людзей неадукаваных, але таксама людзей, прысвяціўшых сваё жыццё малітвам Богу. Якім бы набожным чалавек ні быў, але калі ён не распаўсюджвае сваіх ведаў на карысць грамадства, ён не можа разлічваць на спасенне *(уратаванне)* у Судны

---

[1] Г.зн. вучыць, выкладае, вырашае пытанні, прамаўляе пропаведзі і сачыняе кнігі (хадзімі).

[2] Гэты хадзіс тлумачыцца вучонымі, што малітва ёсць асабіста толькі для сябе, вучоба ж як для сябе, так і для астатніх. Мухаммед (мір яму і міласць Усявышняга!) лепшымі людзьмі называе тых, што прыносяць карысць іншым.

Дзень, і наадварот, невялікай адукацыі, калі толькі яна не прападае дарма, досыць для таго, каб Бог аддаў перавагу чалавеку над сямідзесяці святымі.

Прастата ісламскай рэлігіі, якая выяўляецца ў закліку абагаўляць аднаго і адзінага Бога, з'яўляецца адной з прычын хуткага распаўсюджвання Ісламу. Іслам, атрымаўшы шырокае распаўсюджванне сярод розных народаў, нёс ім свет ведаў і ісціны. Іслам забяспечыў мусульманскім народам адзіную пісьменнасць, даў ім арабскую мову як адзіную мову набажэнства, паслужыў штуршком у развіцці такіх галін навукі, як філасофія, гісторыя, геаграфія, мовазнаўства, літаратуразнаўства, медыцына, астраномія, фізіка, матэматыка. Сярэднявечная Еўропа праз Іслам даведалася пра алгебру, арабскія лічбы і паняцце нуля, што адыграла першаступенную ролю ў развіцці матэматыкі як навукі. Былі вынайдзены і ўдасканалены інструменты і механізмы, без якіх не былі б магчымы вялікія геаграфічныя адкрыцці еўрапейцаў, якія яны здзейснілі праз некалькі стагоддзяў. Гэта і астралябія, і квадрант, і навігацыйныя карты і г.д. Нельга не адзначыць важную ролю Іслама ў захаванні помнікаў старажытный літаратуры, старажытнай грэчаскай філасофскай спадчыны, шматлікіх помнікаў архітэктуры.

На жаль, пасля росквіту мусульманскай навукі, літаратуры і мастацтва, у сярэдзіне гэтага тысячагоддзя наступіў упадак, а затым гады застою, наступствы якога захоўваюцца да сённяшняга часу. Але я спадзяюся, што Усявышні Творца дасць нам сілы і магчымасць адрадзіць мусульманскую навуку і ўзняць яе на дастаткова высокі ўзровень.

Калі мы звернемся да гісторыі татарскага народа, то ўбачым, што Іслам адыграў велізарную ролю ў развіцці навукі і адукацыі. Дзякуючы прыняццю Ісламу ў 922 годзе ў Волжскай Булгарыі паяўляецца пісьменнасць, заснаваная на арабскай графіцы, распаўсюдзілася мастацтва пісьма на камні, на манетах. І галоўнае, у Булгарыі ўзнікаюць і вучэбныя ўстановы, у якіх майстры мелі магчымасць атрымаць урокі арабскай пісьменнасці, будучыя вучоныя вучыліся чытаць і пісаць.

На жаль, да нас не дайшлі літаратурныя і навуковыя помнікі старажытных булгар, а захаваліся толькі надмагільныя надпісы, зробленыя на камні. Але вядомыя аўтары і назвы многіх рэлігійных, гістарычных, геаграфічных і іншых твораў.[1] Асабліва славіліся булгарскія майстры-будаўнікі. Аб гэтым сведчаць архітэктурныя помнікі старажытнага Булгара – мінарэты, палаты, магільныя склепы.[2] Вядома, што булгарскія майстры запрашаліся ў якасці архітэктараў і ў рускія гарады, на-

---

[1] Шыхабетдзін Марджані. Крыніцы па гісторыі Казані і Булгара. Казань, 1989, сс. 142-149.

[2] Халітаў Н.Х. Помнікі архітэктуры Казані. М., 1989, сс. 19-27.

прыклад, Суздаль. Заваяванне Булгарыі манголамі ў XIII ст. адмоўна адбілася на развіцці культуры і навукі. Захопы гарадоў суправаджаліся вялікімі разбурэннямі, знішчэннем вялікай колькасці людзей. Але захопнікі не здолелі разбурыць галоўнае – веру булгар, іх рэлігію – Іслам. Пасля ўтварэння некалькіх ардынскіх дзяржаў Іслам ізноў набыў былую моц з сярэдзіны XIV ст., асабліва на тэрыторыі Залатой Арды, пад уладу якой падпалі і тэрыторыі Булгарскай дзяржавы. Было пабудавана шмат мячэцяў і медрэсэ. Шакірды *(вучні)*, якія вучыліся ў медрэсэ, карысталіся вялікай павагай як сярод народа, так і сярод правіцеляў. Нават жонкі і дочкі ханаў любілі гутарыць са студэнтамі і выкладчыкамі медрэсэ як са сваімі духоўнымі настаўнікамі. Да нас дайшлі імёны такіх буйных мусульманскіх вучоных, як Кутбутдзін Альразі, Сагдзетдзін Тафтазані, Сеід Джалялетдзін ды іншыя.

Пасля распада Залатой Арды адным з цэнтраў мусульманскай навукі і культуры ў XV ст. стала Казанскае ханства, якое ахоўвала традыцыі асветы і адукацыі. На пасаду кіраўніка мусульманскага духавенства абіраўся адзін з нашчадкаў Пасланніка Аллага Мухаммеда *(мір яму і міласць Усявышняга!)* па лініі яго дачкі Фацімы, які насіў тытул сеййід *(правадыр)*. Выбары адбываліся на курултаі, у якім удзельнічалі шейхі, імамы, муллы, хафізы ды іншыя духоўныя асобы.

На мусульманскім духавенстве ляжала важная місія народнага асветніцтва, таму што ў Казанскім ханстве не было іншых школ, акрамя духоўных медрэсэ. Як указвае гісторык Міхаіл Худзякоў, "пісьменнасць сярод татар была распаўсюджана даволі шырока, так што ў кожным паселішчы, дзе была мячэць, існавала таксама і школа".[1] Служыцелі гэтых мячэцяў, у знак павагі да іх ведаў, атрымлівалі асобае званне – данішменд, г.зн. вучоны. Адначасова трэба адзначыць, што адзін з найбольш светлых бакоў духоўнага жыцця складала поўная верацярпімасць. У прыватнасці, у Казані існавалі і хрысціянскія храмы. Місіянерская дзейнасць была вельмі мірнай, галоўным сродкам гэтай дзейнасці была пятнічная пропаведзь. У перыяд існавання Казанскага ханства развівалася і літаратура, асабліва рэлігійная, але разбурэнні і грабяжы, якія адбываліся пры захопе Казані рускімі войскамі ў 1552 г., знішчылі кнігі і рукапісы. Але сярод казанскіх татар вусна захоўваліся творы паэтычнага жанру – дастаны – у прыватнасці "Кайгы наме" – "Кніга жальбы", "Чынгіз хан і крывы Цімур" і г.д. Вядомыя таксама дасягненні казанскіх мусульманскіх майстроў: узоры чаканных сасудаў, стройныя шатровыя дахі мінарэтаў, тонкія пісьмёны на каменнях, маляўнічыя пералівы тканін, упрыгожаныя каляровай юхтой боты і г.д. Усё гэта атрымала сваё развіццё сярод татарскага народа пад духоўнай аховай Іслама.

---

[1] Худзякоў М. Нарысы па гісторыі Казанскага ханства. М., 1991, с. 234.

Хоць мусульманскае духоўнае і культурнае развіццё татар пацярпела ў XVI ст. цяжкі ўдар ад абсалютызма Івана IV Жахлівага, духоўнае жыццё не спынілася, яно толькі перамясцілася ў глыбінку і на ўскраіны, у асноўным на ўсход. Наступнай знамянальнай вехай, верагодна трэба лічыць 1778 г., калі ўказам імператрыцы Кацярыны II ад 22 верасня было створана першае Духоўнае Упраўленне мусульман – Арэнбургскі Магаметанскі Духоўны Сход. Сярод татар за свае больш мяккія ў параўнанні з папярэднімі правіцелямі адносінамі да Іслама Кацярына II атрымала ласкавае прозвішча Царыца-бабуля, але нават яна не адважылася заснаваць духоўнае ўпраўленне ў Казані – гістарычным цэнтры расійскага Іслама. Духоўнае ўпраўленне, якое пазней перамясцілася ва Уфу, кіравала і духоўнай адукацыяй мусульман: яно распрацоўвала праграмы для рэлігійных школ, якіх было вельмі шмат. У нашым распараджэнні маюцца звесткі таго часу толькі па Уфімскай губерні, але і яны дастаткова красамоўныя: ва Уфе існавала Вышэйшае Духоўнае медрэсэ "Талія", дзе рыхтавалі настаўнікаў для астатніх медрэсэ, а таксама сярэдняя навучальная ўстанова "Рушдзі", у іншых гарадах існавала адначасова да 15 сярэдніх медрэсэ, а пачатковая школа – мактаб існавала амаль ва ўсіх буйных мячэцях, а іх колькасць даходзіла да 500.[1] Калі ўлічыць, што ў распараджэнні Духоўнага Сходу ў 1890 г. усяго знаходзілася 4254 мячэці, а з іх толькі 1300 знаходзіліся на тэрыторыі Уфімскай губерні, то верагодна, што агульная колькасць вучэбных мусульманскіх устаноў была ў тры разы вышэй згаданай. Дзякуючы мактабам сярод татар была вельмі шырока распаўсюджана пісьменнасць, а пераважная большасць татарскіх вучоных і літаратараў атрымалі сваю адукацыю менавіта ў гэтых духоўных навучальных установах: Габдула Тукай, класік татарскай літаратуры, закончыў медрэсэ "Мутыгыя" ва Уральску, выдатны асветнік Каюм Насыры атрымаў адукацыю ў медрэсэ пятай махалі г. Казані, выдатны гісторык і мысліцель Шыхабуддзін Марджані да 17 гадоў вучыўся ў шкорле пры вясковай мячэці, а затым працягваў сваю адукацыю ў Самаркандзе і Бухары.

Але духоўнаму асветніцтву і адукацыі мусульман было наканавана перажыць яшчэ адзін цяжкі ўдар: Кастрычніцкая рэвалюцыя, устанаўленне савецкай улады, усталяванне камуністычнай, атэістычнай ідэалогіі. Відаць, будзе дастаткова прывесці толькі адзін дакумент, каб праілюстраваць, што адбылося з духоўным жыццём мусульман пасля рэвалюцыі. Выступаючы на нарадзе ва Уфе 8 мая 1930 г. Старшыня Цэнтральнага Духоўнага Упраўлення мусульман, муфцій Рызаэтдзін Фахрэтдзін адзначаў, што "усе рэлігійныя арганізацыі мусульман знаходзяцца напярэдадні поўнага

---

[1] "Іслам мінбарэ", газета Духоўнага Упраўлення мусульман Цэнтральна-Еўрапейскага рэгіёна Расіі, № 1, 1994.

разбурэння і знікнення. Закрыліся 87 % мухтасібатаў *(мясцовых упраў мусульман)*, з 12 тысяч мячэцяў зачынена больш 10 тысяч, 97 % мул і муэдзінаў пазбаўлены мажлівасці весці набажэнства.[1]

Пасля аддзялення школы ад рэлігіі ўсе мусульманскія духоўныя навучальныя ўстановы былі зачынены. Падрыхтоўка духоўных кадраў ажыццяўлялася тайна, у дамах і на кватэрах. Натуральна, пры такім становішчы цяжка гаварыць аб якім-небудзь прымальным узроўні ведаў будучых свяшчэннаслужыцеляў. Максімум, што яны маглі атрымаць – гэта ўменне чытаць Кур'ан, чытаць намаз, прамаўляць малітоўныя формулы і выконваць асобныя мусульманскія абрады. Рэлігійная літаратура была знішчана або схована ў далёкія падвалы бібліятэк. Змянілася пісьменнасць, мова пачала русіфікавацца, і новае пакаленне ўжо не мела мажлівасці чытаць дарэвалюцыйную літаратуру, асабліва духоўную.

Да сярэдзіны 80-х гадоў у СССР існавала адзіная сярэдняя мусульманская духоўная навучальная ўстанова – медрэсэ "Мір-Араб" у Бухары. Затым быў адчынены Ісламскі інстытут імама аль-Бухары ў Ташкенце, у канцы 80-х – медрэсэ імя Рызаэддзіна Фахрэтдзіна пры ДУМЕС ва Уфе.

На тэрыторыі Беларусі знойдзены і вывучаны цікавыя археалагічныя знаходкі – клады манет, сярод якіх трапляюцца арабскія манеты VIII ст. з надпісамі арабскімі літарамі. Аднак арабскія купцы-мусульмане, відаць, нічога не зрабілі для пашырэння ведаў аб Ісламе сярод беларускага народа, які верыў у сілы прыроды. У 1397 г. паводле дамовы вялікага князя літоўскага Вітаўта і звергнутага з трона хана Залатой Арды Тахтамыша некалькі тысяч татараў накіраваліся з сем'ямі з Прычарнамор'я і Крымскага паўвострава ў Вялікае княства Літоўскае і пасяліліся паблізу Вільні, Навагрудка, Ліды, Мінска, Гродна, Брэста. Беларускія татары верна служылі дзяржаве, у якой жылі. Разам з беларусамі, літоўцамі, палякамі, рускімі татары ўнеслі вялікі ўклад у перамогу над крыжакамі ў бітве пад Грунвальдам *(1410 г.)*, актыўна ўдзельнічалі ў многіх войнах і вызваленчым руху. Становячыся ў шэрагі абаронцаў Радзімы, татары давалі прысягу на сваёй свяшчэннай мусульманскай кнізе – Кур'ане. На новых землях татары-мусульмане пабудавалі мячэці, адкрылі мусульманскія школкі. Згадкі пра гэта знаходзім у лісце невядомага аўтара да турэцкага султана Сюлеймана Пышлівага. Гэты ліст увайшоў у навуковы зварот пад назваю "Рысале-і-татары-і-лех" *(Аповяд пра татараў Польшчы)*. Ён датаваны 1558 г. "Пры вялікіх мячэцях, – піша аўтар "Рысале", – звычайна трымалі імамаў з Крыма і Арды, аплачваючы іх уласнымі сродкамі, у іх жа вучацца

[1] З даклада Старшыні Цэнтральнага Духоўнага Упраўлення мусульман ва Уфе муфція Рызаэтдзіна Фахрэтдзіна 8 мая 1930 г.

нашы дзеці: з іх некаторыя рыхтуюцца да духоўнага прызвання. Калі б не вялікія адлегласці, можна не сумнявацца, што асманскія падзішахі прыслалі б да нас сваіх улемаў (вучоных), якія б трымалі нашу веру ў чысціні і вялі б нас сваей навукай па правільнаму шляху".[1]

У наступныя гады мусульманскія школкі ствараліся ў кожным населеным пункце, дзе жыла значная колькасць татараў. Навучаннем дзяцей займаўся або сам кіраўнік мусульманскай абшчыны – імам, або яго памочнік – мязім *(муэдзін)*. Спрадвеку татары невялікіх вёсачак-засценкаў і мястэчак, дзе не было ні мячэці, ні святара-муллы, запрашалі вучыць дзяцей мусульманскай рэлігіі добра падрыхтаваных старых людзей, якія за невялікую плату, а то проста за ўтрыманне і "спасенне" *(на тым свеце такому настаўніку-годжыю ці настаўніцы-годжыні паводле мусульманскай веры будзе аддадзена належнае за добрую справу)* займаліся з дзецьмі, а то і з дзецьмі сваіх былых вучняў. Нярэдка настаўнікамі па мусульманскай рэлігіі былі хлопчыкі і дзяўчынкі, якія шчыра вучыліся, добра ведалі асновы рэлігіі. Такія "дырэктары" таксама паважаліся ў татараў, а бацькам такіх "дырэктараў" было прыемна ў гэтым прызнацца.

У вялікіх татарскіх паселішчах мусульманскія школкі знаходзіліся ў спецыяльных залах. У перадваеннай Польшчы пры кожнай мячэці быў парафіяльны дом. У Іўі будынак для мусульманскай школы быў пабудаваны ў 1922 г. за грошы татараў-эмігрантаў, якія выехалі перад Першай сусветнай вайной і засталіся там. Але большасць мусульманскіх школ знаходзіліся ва ўласных сядзібах настаўнікаў-годжыяў.

У мусульманскую школу дзеці ішлі з 6–8-гадовага ўзросту. У час заняткаў годжый знаёміў вучняў найперш з арабскім пісьмом. Калі дзеці засвойвалі напісанне літар і вымаўленне асобных гукаў, настаўнік даваў чытаць ім Кур'ан, падзелены дзеля зручнасці на 30 кніжак *(суфорак)*. Чытанне ішло адразу вельмі марудна, дзеці з цяжкасцю вымаўлялі асобныя аяты *(выслоўі з Кур'ана)*. Вучань, які па складах чытаў Кур'ан, зваўся біскіч *(па-турэцку "біскіч" – лесвіца)*. Затым дзеці асвойвалі сюрэем *(ад турэцкага "сюратле" – вельмі хутка, жыва)*, г.зн. яны ўжо маглі чытаць гладка, без затрымкі. Нарэшце пачыналі "спяваць" Кур'ан у адпаведнасці з пэўнымі правіламі. Той, хто ўмеў прачытаць і прапець Кур'ан да суры *(главы)* "Я-Сін", атрымоўваў арабскае прозвішча шахір *(знакамі-ты)*. А вучань, які такім чынам ужо добра пазнаёміўся са свяшчэннай кнігай, называўся куранджэем. Затым наступала чарга іншых рэлігійных кніг, асабліва Хамаіла *(малітоўніка)*, у якім былі не толькі арабскія, але і старажытнататарскія тэксты. На гэтым па-

---

[1] Muchlinski A. Zdanie Sprawy o Tatarach litewskich //Teka Wilenska. Wilno, 1858, № 4–6.

чатковая мусульманская адукацыя закончвалася і адбывалася своеасаблівае свята — Ляхі, свята ганаравання лепшых вучняў, атрымаўшых мусульманскія веды.

У выніку Першай сусветнай вайны і адыходу заходнебеларускіх зямель да Польшчы паводле Рыжскай дамовы 1921 г. адзіны народ — беларускія татары быў разарваны. Большая частка татар апынулася ў Польшчы *(звыш 6 тысяч)*, каля 3 тысяч у Літве і амаль 4 тысячы ў БССР. У адроджанай Рэчы Паспалітай дзяржаўная ўлада, духавенства і грамадскасць легальна, свабодна маглі займацца рэлігійным выхаваннем дзяцей. У польскіх школах адзін раз на тыдзень быў урок рэлігіі. Праводзілі гэты ўрок святары. Польская дзяржава плаціла святарам грошы за педагагічную працу, як і выкладчыкам іншых прадметаў. У міжваенны перыяд *(1918—1939 гг.)* для школ у Польшчы рыхтавалі спецыяльна настаўнікаў рэлігіі. У малых *(пачатковых)* школах урокі рэлігіі праводзілі настаўнікі. У школах, дзе была значная колькасць вернікаў-мусульман і дзе былі мячэць і святар-мулла, праводзіліся ўрокі мусульманскай веры па спецыяльна распрацаванай праграме. Былі складзены падручнікі на арабскай мове з тлумачэннем па-польску. У праграму навучання ўваходзілі асноўныя палажэнні свяшчэннай для мусульманіна кнігі — Сунны, дзе выкладзены выказванні прарока Мухаммеда. Прадугледжвалася, што на пачатковым этапе мусульманскія дзеці павінны былі навучацца чытаць і пісаць арабскімі літарамі асобныя аяты *(вершы)* з Кур'ана, павольна і выразна чытаць малітвы, ведаць неабходнае на памяць. У другі і наступныя гады навучання мусульманскія дзеці павінны былі засвоіць палажэнні ісламскай веры, каб маглі іх пры неабходнасці растлумачыць людзям іншага веравызнання, адначасова паказаць, што ў мусульманскай веры ёсць шмат агульнага з яўрэйскай і хрысціянскай верай.

Прайшоўшы даволі цяжкую школу мусульманскай адукацыі, татарскія дзеці, іншы раз са спазненнем, вельмі лёгка авалодвалі славянскай граматай, якой навучаліся ў казённых школах. Запамінанне на памяць вялікіх тэкстаў на арабскай мове садзейнічала таксама вывучэнню замежных моў, матэматыкі ды іншых прадметаў.

Для далейшага навучання мусульманскіх дзяцей пасылалі на вучобу ў Югаславію, у Боснію, дзе значная частка людзей *(больш за 2 млн. чалавек)* вызнавалі мусульманскую веру, а будучы славянамі, вельмі лёгка маглі зразумець татарскіх хлопчыкаў з Польшчы, бо родная мова гэтых хлопчыкаў была беларуская. Мелася на мэце найбольш здольных з гэтых дзяцей, якія завершаць вучобу ў медрэсэ *(сярэдняя навучальная ўстанова, якая давала не толькі рэлігійную, але і агульную сярэднюю адукацыю)*, працягваць вучобу ў вышэйшых навучальных установах, такіх як Аль-Азхар у Каіры. Польскія ўлады накіроўвалі на павышэнне кваліфікацыі, на стажыроўкі ў арабскія краіны выпускнікоў усходазнаўчых факуль-

тэтаў польскіх універсітэтаў, а калі такі факультэт заканчваў татарын-мусульманін, то яго накіроўвалі ў першую чаргу. Вядома, што ў Егіпце ўдасканальваў свае веды выпускнік Мюнхенскага універсітэта, доктар філасофскіх навук Якуб Шынкевіч і магістар Львоўскага універсітэта Алі Варановіч *(абодва ўраджэнцы г. Ляхавічы, што на Брэстчыне)*. Пад час навучання ў Егіпце Я. Шынкевіч і А. Варановіч знаёмілі інтэлігенцыю гэтых краін з жыццём у Польшчы, становішчам мусульман у гэтай краіне. Адначасова яны пісалі і друкавалі цікавыя і карысныя звесткі пра Егіпет і іншыя мусульманскія краіны ў часопісах татараў-мусульман Польшчы "Татарскае жыццё" і "Ісламскі агляд" і ў татарскім "Рочніку". Нацыянальна-культурнае адраджэнне татараў у Польшчы падтрымлівалася дзяржаўнымі і навуковымі ўстановамі гэтай краіны. Штогод на патрэбы татараў-мусульман польская дзяржава выдаткоўвала каля 57 тысяч злотых.[1]

У БССР у гэты перыяд у выніку пашырэння пакаранняў многія татары аказаліся зняволенымі. Вельмі цяжка было жыць дзецям "ворагаў народа". Савецкая ўлада ў БССР зрабіла ўсё для разбурэння традыцыйнага жыццёвага ладу татарскага насельніцтва Беларусі, а таксама цэнтраў захавання этнаканфесійнай спецыфікі гэтага народа. Пры савецкай уладзе мусульманскія школкі пры мячэцях пачалі зачыняць. Крыху пазней, змагаючыся з праявамі рэлігійнасці, улады БССР пачалі таксама зачыняць, а затым разбураць мячэці, арыштоўваць і фізічна знішчаць мусульманскіх духоўных асоб, прадстаўнікоў татарскай інтэлігенцыі. Такая палітыка была пастаўлена ў цэнтр дзейнасці партыйна-дзяржаўных органаў Беларусі і прывяла беларускіх татар да мяжы знікнення як самабытнага народа. Шмат татараў былі незаконна асуджаны сталінскім рэжымам і знаходзіліся ў лагерах Поўначы, Сібіры, Казахстана і Далёкага Усходу. Многія татары-мусульмане Заходняй Беларусі баючыся, што іх можа напаткаць лёс крымскіх татараў, каб не быць дэпартаванымі, у пасляваенныя гады самі выехалі ў Польшчу, а адтуль у ЗША, Аўстралію і іншыя аддаленыя краіны. У тыя гады паехалі перш за ўсё самыя актыўныя, самыя адукаваныя татары, якім найбольш пагражаў сталінскі рэжым. Мусульманская адукацыя і культура беларускіх татар за гады савецкай улады прыйшла ў заняпад.

Толькі напрыканцы 80-х гадоў адыходзячага стагоддзя, калі пачаўся працэс нацыянальнага адраджэння народаў, актыўныя прадстаўнікі беларускіх татар атрымалі магчымасць аб'яднацца і ўтварыць грамадска-культурныя і рэлігійныя суполкі. Менавіта ў гэты час у Рэспубліцы Беларусь былі прыняты заканадаўча-прававыя акты, якія стварылі адпаведную базу для забеспячэння ўсебаковага нацыя-

[1] Архіў КДБ РБ. Спр. 18019-с, арк. 173, 185.

нальна-культурнага развіцця нацыянальных меншасцяў краіны, у тым ліку і беларускіх татар.

У адпаведнасці з артыкулам 5 закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" *(прыняты 29 кастрычніка 1991 г.)* з восені 1992 г. у месцах кампактнага пражывання беларускіх татар дзейнічаюць нядзельныя мусульманскія школкі, у якіх разам з Ісламам ідзе вывучэнне татарскай і арабскай моў, гісторыі і культуры татарскага народа. Як правіла, у гэтых школках займаюцца веруючыя татары-мусульмане.Назіраецца вялікая ўвага і цікавасць навучэнцаў мусульманскіх школ не толькі да сваёй канфесіі і яе гісторыі, але і да ўсіх канфесій, якія існавалі і зараз існуюць або адраджаюцца на Беларусі. Што тычыцца мусульманскай канфесіі і яе гісторыі на Беларусі, то найбольшую цікавасць у навучэнцаў выклікаюць такія пытанні, як мусульманская мараль, месца жанчыны ў Ісламе, узаемаадносіны мусульманства з іншымі канфесіямі ў розныя гістарычныя адрэзкі часу, мусульманскія абрады, святы ды інш. Цяжкасці, з якімі прыходзіцца сутыкацца настаўнікам пры выкладанні ў гэтых школах, заключаюцца, галоўным чынам, у адсутнасці належных вучэбных дапаможнікаў, прыстасаваных для такога тыпу школ. Таму ўжо даўно наспела неабходнасць стварэння вучэбнага дапаможніка па гісторыі мусульманства на Беларусі і наогул па канфесійнай гісторыі Беларусі. Варта перавыдаць дапаможнікі і падручнікі для мусульманскіх школ, створаныя муфтэятам Рэчы Паспалітай у 1925–1939 гг., асабліва "Praktyczny podręcznik poczatkowego czytania po arabsku" *(Wilno, 1937 r.)*, а таксама "Самоучитель татарского языка русскимъ и русскаго языка татарамъ" *(Казань, 1894 г.)*.

Такім чынам, мусульманская рэлігія для беларускіх татараў – гэта нацыянальная спадчына і крыніца этнічнага адраджэння. Усебаковае вывучэнне Ісламу дае вернікам пачуццё паўнаты і радасці жыцця, вучыць берагчы чалавека і навакольнае асяроддзе, гуманізуе сферу сямейна-бытавых адносін, абагачае культуру татарскага народа. Беларускія татары вывучаюць гісторыю свайго народа і сваёй радзімы – Беларусі, паважаюць нацыянальныя сімвалы, пад якімі разам з беларускім і іншымі народамі змагаліся супроць іншаземных захопнікаў і прыгнятальнікаў.

**І. Канапацкі**



# "МЫ З ІМАНАМ ЖЫВЁМ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ", АБО ПАЗНАННЕ ТАЙНЫ АЎТАРСТВА ГІМНА...

СЛЕДЫ ИСЧЕЗНУТ ПОКОЛЕНИЙ,
НО ЖИВ ТАЛАНТ, БЕССМЕРТЕН ГЕНИЙ.

**Ф.Глинка.**

ЗНІКНУЦЬ СЛЯДЫ ПАКАЛЕННЯЎ,
АЛЕ ЖЫВЫ ТАЛЕНТ,
БЯССМЕРТНЫ ГЕНІЙ.

**Ф.Глінка.**
Пераклад.

У 1991 годзе ў чацвёртым нумары часопіса-квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" былі надрукаваны дзівосныя паэтычныя радкі пад назвай **"Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі"**, якія заканчываліся так:

Йшлі гады й нашчадкі татар-мусульман
Беларускую мову з павагай прыдбалі;
Але веру ў Аллага – свяшчэнны Іман
Мы да суднага дня захаваем.
Рэфрэн.

Аўтарства там ніякага не было пазначана, як і месца нараджэння верша, або запісу, з якой крыніцы ўзяты, ці ў якой мясціне запісаны – таксама ніякага напамінку або абазначэня.

Другі слупок знізу ўверх гучыць вось як:

Служба цяжкай была, у суровых баях
Шмат галоў маладзецкіх паклалі.
За адвагу і мужнасць татарскім сынам
Каралі прывілеі давалі.
Рэфрэн.

Чытаеш, мовіш ці пяеш і адчуваеш нейкую незвычайную народнасць гэтага верша, быццам ён напісаны даўным-даўно; яны прайшлі – гэтыя радкі – апрацоўку і шліфоўку часам і цераз стагоддзі занатаваліся так *(3-і слупок)*:

На прызыў спадара ў любую пару
Батыры сваіх коней сядлалі.
Жонак бралі сваіх, каб варылі яду
І знявечаных у баях даглядалі.
Рэфрэн.

Будучы ў Менску на Другой міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі на тэму "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі" *(травень 1995 г.)*, бачыў і чуў, што ў некаторай частцы аўдыторыі не раз ішла размова аб вершы "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі", бальшыня тады лічыла гэтыя вершаваныя словы фальклёрнымі. Праўда, гэта адчувалі не ўсе; адзін юнак, які сядзеў на раздачы літаратуры і яе продажы, у адзін з перапынкаў адышоў ад свайго стала, падышоў да Якуба Адамавіча Якубоўскага, паважліва павітаўся з ім і мовіў, што ходзяць чуткі, што, нібыта, ён аўтар гэтага твора, але мудры чалавек неяк удала перавёў гутарку ў іншую ручаіну. Але мне гэта недзе ўпала ў галаву, засела стрэмкай, і я вырашыў дасканальна ўглядзецца-учытацца ў гэты ўзнёслы верш прыгожага пісьменства. І няма чаго тутака хаваць, таіцца, адчуў руку сапраўднага майстра слова, але чыю?

Чытаю другі слупок:

Мы зляпілі дамы, пры ауле сваю
Для малебнаў Аллагу мячэць збудавалі.
Нарадзілі дзяцей, асвяцілі зямлю
І ў яе па Ісламу памерлых хавалі.
Рэфрэн.

Канешне, гэты слупок і паказаў мне спецыяльную стылізацыю пад народнасць, асабліва словы "Мы зляпілі дамы...", і вось яны мне зноўку ўспомніліся, калі я пачаў перабіраць у сваёй памяці першую сустрэчу Якуба Адамавіча ў мяне на кватэры ў Баранавічах, тады, як гаворыцца, я рубам паставіў пытанне, хто ж аўтар "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі" – гэта адбылося ўлетку 1994 г., як і цераз два гады потым, Гаспадар Якубоўскі абышоў яго, што неяк мне і няёмка было зноўку агучваць сваю цікаўнасць.

Цераз некаторы час будучы ў гасціннай кватэры Якуба Адамавіча і Таццяны Васільеўны Якубоўскіх, тое ж гаварыў і яго абаяльнай і мілай жонцы, і яна таксама нічога пэўнага сказаць тады не змагла.

Цікаўнасць – мабыць не горшая рыса майго характару. Перад Трэцяй міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыяй *(1997 г.)* у мяне адбылася яшчэ адна сустрэча з гутаркай з Якубам Адамавічам, тады я гасцяваў у яго, ведаў, што хутка яму будзе 65-годдзе, таму я выклаў свае заключэнні, хто ж з'яўляецца аўтарам "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі", як гаворыцца, "прыціснуты" фактамі да сцяны, ён мусіў не адмовіцца ад стварэння яго.

Калі адпалі ў мяне ўсялякія сумненні, падрыхтаваў два варыянты матэрыялаў да друку – адзін выйшаў у "Нашым слове" *(№ 14, 1997)*, а другі – у "Байраме. Татары на зямлі Беларусі" *(№ 1, 1997)*, што

займальна, пры падрыхтоўцы да друку гэтага майго напісання вельмі некампетэнтны супрацоўнік "НС" Здзіслаў Сіцька, як сякерай прайшоў па маладым лесе і адрубіў увесь абзац, звязаны з вершам "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі", а вось у часопісе-квартальніку твор удала паказаўся, праявіўся і ўквеціў нарыс пад назвай "Жывая і стваральная легенда беларускага і беларуска-татарскага народаў" *(Да 65-годдзя Якуба (Якава) Адамавіча Якубоўскага, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР)*:

"Сярод паданняў аб гэтым чалавеку і тое, што як і Якуб Колас, ён піша цудоўныя вершы, сярод якіх частка нават робіцца народнымі песнямі",– і далей расказваецца, што адна з іх нават перакладзена на мову яго далёкіх продкаў – татараў з Крыма. Мне толькі застаецца прывесці адзін слупок з гэтага песеннага твора:

Мы з Паволжа і Крыма з Іманам прыйшлі
На гасцінныя землі Літвы і Беларусі.
Пад Грунвальдам суровы экзамен здалі
І уланскую службу няслі без прымусу.
Рэфрэн:
Ляй лагу ілялагу, Мухамед расул Аллагу,
Ляй лагу ілялагу, Мухамед расул Аллагу.

Як вядома, у тым жа нумары, дзе быў упершыню надрукаваны паэтычны шэдэўр "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі", маецца яго выдатны пераклад на крымска-татарскую мову "Бизлер Иман Илен Белорусие Топрагўында Яшаймыз", які зрабіў мужны і дбайны сын Крыма, узнёслы адраджэнец Беларусі, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Ісмаіл Ісмаілавіч Меметаў. І яшчэ, на рускую мову гэты твор перакладзены Л. Ажгірэвіч.

На сёння маюцца дзве мелодыі на верш "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі", першую і першым напісаў Алег Гембіцкі, другую – маладая таленавітая кампазітар з горада Ліда Гродзенскай вобласці Дзінара Мазітава.

Як засведчыў 12 студзеня 1999 г. на сустрэчы з нагоды выхаду 30-га нумару квартальніка-часопіса "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", прысвечанага светлай памяці галоўнага рэдактара Якуба Якубоўскага ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа вучоны, грамадскі і рэлігійны дзеяч Ібрагім Барысавіч Канапацкі, Якуб Адамавіч сваім сэрцам больш успрыняў музыку Алега Гембіцкага...

У сувязі з гэтым, як не ўспомніць лёс Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР на тэкст М. Клімковіча, музыка Н. Сакалоўскага, які быў зацверджаны 24.09. 1955 г. Для знаўцаў музыкі вядома, што да зацвярджэння Гімна на словы М. Клімковіча "Мы беларусы з братняю

Руссю..." былі дзве мелодыі песні, адну з іх, найбольш велічную, і абралі Гімнам – гэта была музыка Н. Сакалоўскага.

Нешта такое зрабіла і кіраўніцтва Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", якое абрала тэкст Я.А. Якубоўскага на музыку Дзінары Мазітавай сваім Гімнам, які, на мой погляд, пазямному і прачула адчула рытміку вершаванага шэдэўра.

Вось і ўсё, што хацелася сказаць, пра пазнанне тайны аўтарства Гімна беларускіх татараў.

Даведка: Гімн – перакладаецца з грэчаскай мовы, як урачыстая, хвалебная песня.

**М. Маліноўскі**



## ГАЙДАР – МАНГОЛЬСКІ КОННІК – АРАБСКІ ЛЕЎ – НЕШТА ІНШАЕ ?

І сёння шмат людзей не ведае, адкуль славуты савецкі дзіцячы пісьменнік Аркадзь Гайдар узяў сабе такую незвычайную літаратурную мянушку-псеўданім, як Гайдар? Сапраўднае ў яго прозвішча – Голікаў. Што да мяне, дык я магу адразу сказаць, што псеўданім Гайдар – гэта не беларускае, не рускае, не украінскае слова. Як і імя Цімур, якое перакладаецца, як моцны, стойкі, жалеза. Але ўсім нам вядома, што, дзякуючы кнізе Аркадзя Гайдара "Цімур і яго каманда", нарадзілася шматлікае племя, якое шмат зрабіла ў сваім дабрадзействе, і, як мне здаецца, гэтыя маладыя дабраахвотнікі і сёння ўдала дзейнічаюць у некаторых мясцінах.

Калі пагартаць "Каляндар татар-мусульман Беларусі на 1998 г. – 1418–1419 г. Хіджры" *(Мінск, 1998)*, выдадзены пры ўдзеле Міністэрства культуры РБ, Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур і Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб" *(Рэдактарская група: І.Александровіч, І.Канапацкі – адказны рэдактар, Я.Якубоўскі)*, дык у раздзеле "Мусульманскія імёны", падраздзел "Мужчынскія імёны", на старонцы 24 мы можам прачытаць: "Гайдар – леў". Так, у жыцці, а найбольш у войску, калі так можна мовіць, па рысах характару і паводзінаў Голікаў быў сапраўды падобны на ільва, бо – гэта рэдкасць, калі юнак у 16 гадоў камандуе палком. Ды і нарадзіўся, і рос Аркадзь Голікаў у тых краях, дзе цесна суседнічалі і працвіталі як хрысціянства, так і мусульманства. Мабыць, недзе падсвядома будучы пісьменнік і ўвабраў у

сябе такі моцны прыродны назоў, як леў, і зрабіўся славутым уладаром мастацкага слова сярод дзятвы ў якасці Гайдара.

Так, гэта толькі мая асабістая думка. На самай справе ў Аркадзя Гайдара, па яго меркаваннях, усё было інакшым. Незадоўга перад сваёй трагічнай смерцю сваім баявым сябрам ён расказваў, што прыйшоў да яго псеўданім у апошні год грамадзянскай вайны падчас службы ў Чырвонай Арміі на мяжы з Манголіяй *(у тых месяцах, але праз многа гадоў з 1975 па 1980 служыў і я. – **М.М.**)*.

"Часцяком, бывала, бяжыць насустрач мангол, махае шапкай і крычыць: "Гайдар, гай-дар!" А "гайдар" па-руску, як мне пераклалі з мангольскага, значыць коннік, скачучы ўперадзе. Так мяне потым і нашыя байцы пачалі клікаць. І запала гэтае слова моцна ў маю душу, вельмі моцна... Як бачыце, хлопцы, не дзеля прыгажосці якойсьці ўзяў я сабе гэты псеўданім" *(З кнігі Ляскоўскага і Котава "Всадник, скачущий впереди", Масква, 1967, стар. 192, даецца ў перакладзе. – **М.М.**)*.

Але гэта, мне так здаецца, позняя і вельмі бліскучая прыдумка Аркадзя Голікава, бо першая кніга, выдадзеная ім, мела яго сапраўднае прозвішча. Яна мела назву "В дни поражений и побед".

Літаратуразнаўцы і некаторыя іншыя шукальнікі праўды псеўданіму Аркадзя Гайдара надалі і такую версію, што імя – крыптонім, які распазнаецца гэтак: Г – пачатковая літара сапраўднага прозвішча *(Голікаў – **М.М.**)*, ай – першая і апошняя літары імя Аркадий, дар – мусіць азначаць скарочана, на французскі манер *(д'ар)* "арзамаскі" *(Гайдар вырас у гэтым горадзе)*. Апошнюю гіпотэзу добра распрацаваў даследчык Валянцін Дзмітрыеў.

Дык на якой версіі мы павінны спыніцца і вызначыцца дакладна? Як хто, а я не ўзяўся бы за гэтую неўдзячную працу, бо ўсе яны маюць перад сабою нейкую рацыю і падставу і па-свойму адказваюць, адкуль такі экзатычны псеўданім у Аркадзя Голікава. Гайдар – гэта тая загадка, на якую сёння мы не маем сапраўднай адгадкі...

**М. Маліноўскі**



# СУ, ХУ-НІ-ХЭ-ЦЗЫ І... ТАТАРСКАЕ ЗЕЛЛЕ

3 лютага 1999 г. ад вельмі шаноўнага і паважанага чалавека, вучонага і грамадскага дзеяча Ібрагіма Барысавіча Канапацкага атрымаў ліст: "Дарагі Міхась Міхайлавіч! Мір Вам!", а цераз шмат радкоў ён піша: "На наступным тыдні планую *(дзівосная вязь арабскіх літараў. – **М.М.** – калі Аллаг дазволіць)* паехаць у Варшаву да нашых сяброў і супляменнікаў

*(цікавае словы – супляменнікі, супляменнік).* Сю – па-цюркску, па-татарску – вада. Племя каля вады. Звычайна татары сяліліся каля вады і з гэтым звязаны гарбарная вытворчасць, агародніцтва і інш. А можа племя аб'ядналася адной вадой, гэтаксама, як і супольнасць" – некалькі палёў залітых адной вадою. Але гэта так – "информация к размышлению".

Прачытаўшы да канца ліст, у сувязі з ім чамусьці прыйшлі на ўспамін свае нататкі ў "Чырвонай змене" *(16 лістапада 1995 г.)* "Брудная рака і па-кітайску брудная".

"У кнізе Уладзіміра Арсеньева "Па Усурыйскаму краю" давялося прачытаць, што словы "ху-ні-хэ-цзы" перакладаюцца, як брудная рака. Успомніў, што летам 1963 г. мае таварышы па Ашмянскай школе-інтэрнаце вырашылі пакупацца ў рацэ Ашмянцы і амаль усе захварэлі на вадзянку. Мне тады цудам пашанцавала пазбегнуць гэтага. З тае пары колькасць "ху-ні-хэ-цзы" на Беларусі значна павялічылася, і гэта пры тым, што колькасць рэк у некалькі разоў паменшылася. І, мабыць, таму я ўжо не здзіўляюся, калі чуў ці чытаў папярэджанні, што купанне ў рэках, сажалках, азёрах небяспечна для здароўя.

Водныя аб'екты нашай краіны – багацце, але ні дзяржава, ні мы самі пра гэта амаль зусім не задумваемся, таму іх труцім, труцім, труцім... Толькі да якой пары гэта будзе беспакарана?"

Чаму ў мяне ў адно звязаўся ліст дарагога мне Ібрагіма Барысавіча і чырвоназнаменаўскія нататкі, мне вядома, бо тутака ёсць і яшчэ адна разынка. У 1994 г., калі да мяне ўпершыню завітаў у госці знакаміты беларускі энцыклапедыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, галоўны рэдактар часопіса-квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" Якуб *(Якаў)* Адамавіч Якубоўскі, ён тады ў маёй агромністай бібліятэцы звярнуў сваю ўвагу і на кнігу "Дикорастущие и медоносные растения Украины" *(Кіеў, 1889 г.)*, аўтары гэтага даведніка Мікалай Грысюк, Ігар Грынчак, Яфім Елін. Разгарнуўшы яе, падзівіўся і сказаў: "Бачыце, Міхась Міхайлавіч, сярод народных назваў аер звычайны украінцы завуць і татарське зілля."

На Беларусі аер у народзе завуць яшчэ явар, яір, ярай, аірны корань, аір і... татарскі корань, татарскае зелле, зёлак татарскі. У нашай краіне лічаць, што татарскае зелле прыйшло разам з мангола-татарамі. Так, радзімай гэтага прадстаўніка прыроды з'яўляецца Паўднёва-Усходняя Азія. І сапраўды татарскі корань прыйшоў да нас не праз гунаў, якія раней за татара-манголаў страшэннай віхурай пранесліся цераз Еўропу, а з ордамі Чынгіз-хана і Батый-хана. У кнігах найбольш пішацца аб нашэсцях. Але нам вядома, што не толькі гэта было, але і мірны прыход і атабарванне назаўсёды ў нас татараў, пра манголаў невядома. Так, у першых захаваўшыхся летапісах дакладна апісана, дзе яны былі паселены... Канешне, ля рэк, вазёраў. У свае сярэднія гады мне прыйшлося, як гаворыцца для чырвонага слаўца, уздоўж і ўпоперак прайсці-праехаць вялікі і магутны былы Савецкі Саюз і вельмі часта сустракацца з та-

тарамі. Што мне заўсёды запаміналася ў гэтага народа – гасціннасць і чысціня. Я не буду гаварыць аб унутранай, гэта і так вядома, а аб знешняй. Гэту сваю традыцыю, падкрэслю, не мангольскую, а татарскую, гэты народ нёс разам з сабою і на новыя землі. Асабліва пры гэтым татары клапаціліся аб чысціні водных сховішчаў – рэк, азёраў, сажалак, крыніц. Татары лічылі, што аер ачышчае вадаёмы, гэта, мабыць, так было, калі яшчэ не былі створаны хімічныя прадпрыемствы. І там, дзе аер расце і плодзіцца, можна паіць коней, жывёлу, піць і самому. У памяці украінцаў, беларусаў, рускіх засталося, што татары кідалі карэнішчы аеру ў водныя крыніцы і новая расліна ў тады чыстых рэках, азёрах, ставах адразу ж прыжывалася. Ды і што гаварыць, раней і стронга вадзілася і жэмчуг на Беларусі дабывалі... Вось з тых далёкіх часоў і знайшло сваю новую радзіму татарскае зелле. Чаму зелле? Бо гэта багатая лекавая расліна. Яна вельмі ўдала паляпшае апетыт і працэсы стрававання. Як пішуць Я.П. Шмярко і І.П. Мазан у сваёй кнізе "Лекавыя расліны ў комплексным лячэнні" *(Мінск, "Навука і тэхніка", 1989)*: "Эфірны алей, што змяшчаецца ў корані *(аеру. – М.М.)*, уваходзіць у склад прэпарата "Аліметын", які выкарыстоўваецца для лячэння і прафілактыкі жоўцякамянёвай і мачакаменнай хвароб. Здаўна вядомыя супрацьзапаленчыя ўласцівасці аеру, які ўжываўся для лячэння незагойных ран і язваў. Бактэрыцыдныя ўласцівасці аеру шырока выкарыстоўваюцца ў стаматалогіі для лячэння захворванняў дзёснаў. Карэнішча расліны ўваходзіць у склад некаторых зубных парашкоў і лекава-прафілактычных зубных паст, а таксама з'яўляецца кампанентам лекавых і духмяных ваннаў, якія рэкамендуюцца для лячэння некаторых гінекалагічных захворванняў і захворванняў скуры. Адвар карэнішчу аера ў сумесі з карэнішчамі лопуху і "шышкамі" хмелю ўжываюць для ўмацавання валасоў. Раней карэнішча аеру выкарыстоўвалася ў медыцыне як мачагонны сродак, а таксама пры сэрцабіццях і хранічных захворваннях спіннога мозгу. Пры жаванні кораня ўзмацняецца рвотны рэфлекс у тых, хто кідае курыць".

Прачытаеш гэтае і падзівішся, які вялікі лекавы здабытак прынеслі разам з сабою нашыя беларускія татары. І як у сувязі з гэтым не ўспомніць радкі мудрага класіка – народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна з верша "Беларускія татары/ Якаву, сыну Адамаваму, Якубоўскаму":

На Беларусь нашэсце вашае
Вітаю, Мірныя татары!
Вы дбалі – будавалі, важылі,
Аблокаў пасьвілі атары.

Былі гароднікамі ўпартымі,
Кажушнікамі, макалямі,
Прэч гора адганялі жартамі,
Кулямі смутак затулялі.

Вы засланяліся правіцаю
Кайданьнікамі на этапах,

Вы мову зьберaглі крывіцкую
І ў сэрцах вашых,
І ў Кітабах.
(...)

Але нашэсце, або атабарванне татараў адбылося так даўно, што шмат людзей нават і забылі пра гэта, як і не ведаюць, як адрозніць аер звычайны — зёлак татарскі ад іншых раслін, таму мы вырашылі апісанне яго даць з даведнікаў:

"Шматгадовая травяністая расліна 100-125 см вышынёй. Карэнішча тоўстае, паўзучае, зверху крыху сплясканае, унутры белае з ружовым адценнем, губчастае, з прыемным пахам. Лісты лінейна-мечападобныя, з паралельным жылкаваннем. Кветаноснае сцябло прамастойнае. Суквецце — прадаўгавата-канічны катах, які сядзіць каля асновы пакрывала, зялёнага, лінейнага, якое нагадвае ліст. Катах усаджаны дробнымі зяленавата-жоўтымі кветкамі з 6 плеўчастымі лісточкамі калякветніка. Тычынак 6, песцік 1. Плод — сухая ягада. Цвіце ў маі-чэрвені. Расце на берагах вадаёмаў і балотах. Лекавая расліна".

Мне вядома таксама, што аер звычайны і цудоўная кулінарная расліна, таму спецыяльна для гаспадынь і для гаспадароў-аматараў гатавання ежы зрабіў выбарку рэцэптаў з татарскага кораню і пераклаў на беларускую мову.

## Парашок з карэнішчаў аеру

Карэнішча старанна адмыць і ачысціць ад гразі і пяску, разрэзаць на кавалкі, высушыць, змяльчыць у кавамолцы або ў ступцы. Выкарыстоўваць да першых, другіх страў, полівак, соусаў, напояў, хлебабулачных вырабаў.

## Адвар з карэнішчаў аеру

На 1 л вады: 20 г сушаных карэнішчаў аеру.

Сушаныя змельчаныя карэнішчы аеру заліць халоднай вадой і варыць 10—15 хвілін, затым настойваць 2-3 гадзіны *(лепш у тэрмасах)* і працадзіць. Выкарыстоўваць для духмянасці першых страў, напояў, рознай салаты.

## Цукровы сіроп з аерам

На 1 л вады: 20 г сушаных карэнішчаў аеру, 500 г цукру, 2 г лімоннай кіслаты.

Сушаныя змельчаныя карэнішчы аеру заліць кіпенем, настойваць 20—24 гадзіны, працадзіць, дадаць лімоннай кіслаты. Цукар растварыць у гарачай вадзе, змяшаць з настоем, разліць у шкляны посуд. Захоўваць у прахалодным месцы. Выкарыстоўваць для духмянасці кандытарскіх вырабаў, салодкіх страў. Срок захавання да 1 года.

## Зацукраваныя карэнішчы аеру

1 кг свежых карэнішчаў аеру, 200 мл вады, 800 г цукру.

Карэнішчы аеру старанна прамыць, ачысціць, разрэзаць на кавалкі даўжынёй 3–4 см, кожны кавалак разрэзаць уздоўж на 4 часціны і падвяліць на паветры. Прыгатаваць 80 %-ны цукровы сіроп, апусціць у яго карэнішчы і варыць на слабым агні 10–15 хвілін. Затым аер дастаць з сіропа, разлажыць на марлі ці на дыхцянай дошцы і падсушыць на паветры. Падаваць да гарбаты *(чаю)*. Захоўваць у шкляным посудзе ў прахалодным месцы.

## Сіроп з аернага кораню

У вадзе, застаўшайся пасля варкі аеру, растварыць цукар з разліку 7 шклянак цукру *(1,4 кг)* на 750 мл *(3 шклянкі)* вады. Сіроп такой канцэнтрацыі не пракісае і захоўваецца практычна неабмежаваны час. Яго можна выкарыстоўваць для надання арыгінальнага водару напоям, цесту *(калі ў яго ўваходзіць вада)*, кампотам. Асабліва цікавы смак набывае з гэтым сіропам чорная кава.

## Варэнне з карэнішчамі аеру

100 г сушаных карэнішчаў аеру, 600–800 г рознай садавіны *(алыча, яблакі, сліва, айва і інш.)*, 250 г вады, 750 г цукру.

Змельчаныя карэнішчы аеру варыць у 75 % цукравым сіропе 5–10 хвілін, затым дадаць садавіну і варыць да гатоўнасці.

## Варэнне з лістамі аеру

1 кг лістоты аеру, 250 мл вады, 750 г цукру.

Лісты, адыходзячыя ад карэнішчаў, разрэзаць на кавалкі 3–4 см, апусціць у 75 % цукравы сіроп і варыць на слабым агні да гатоўнасці.

## Кампот з аерам

На 1 л вады: 100–150 г свежых карэнішчаў аеру ці 50 г сушаных, 400 г свежай садавіны *(яблыкі, ігрушы і інш.)* ці 100 г сушанай, цукар або мёд па смаку.

Свежую садавіну зварыць да гатоўнасці, дадаць цукар і змельчаныя карэнішчы аеру, давесці да кіпеню, настойваць у зачыненым посудзе 30 хвілін *(карэнішчы можна апусціць у торбачцы, якую перад выкарыстаннем удаліць)*. Піць для наталення смагі, паляпшэння апетыту.

## Квас з аерам

На 3 л хлебнага квасу: 250 г адвару аеру.

У хлебны квас дабавіць адвар з аеру.

## Аерны лікёр

100 г свежых ці 50 г сушаных карэнішчаў аеру, 8 сухіх бутонаў гваздзік *(вострая прыправа)*, 1 л 70 % спірту, 1 кг цукру.

Раздробленыя карэнішчы і гваздзікі настойваць на спірце 8 дзён, часта ўзбоўтываюць. Працадзіць, дабавіць сіроп з 1 кг цукру і 1 шклянкі вады, настойваць яшчэ тыдзень.

## Супрацьгрыпозны чай

15 г сухіх змельчаных карэнішчаў аеру заліць шклянкай кіпеню, настойваць 8 гадзін або кіпяціць 20 хвілін, прыймаць па 1 сталовай лыжцы 3 разы ў дзень перад ежай.

Я прачытаў больш 20 кніг пра аер і мог бы яшчэ напісаць больш 10 старонак пра яго, але адно яшчэ дадам, што татарскае зелле – асноўная ежа андатры і бабра. І дадам яшчэ, што татары раней на Беларусі былі непераўзыйдзенымі майстрамі апрацоўкі скур свойскіх жывёл, для працы асабліва з тонкай скурай у сваёй гарбарнай справе яны ўжывалі і аер, канешне, людзі гэта таксама бачылі і таму слава аера, як татарскага зёлку, ідзе і плодзіцца.

Мне так здаецца, што сапраўдныя гаспадыні-татаркі не прымуць рэцэпт аернага лікёру і правільна зробяць, бо цвярозасць заўсёды была састаўной і неад'емнай часткай мусульманскага свету. І ўсё ж я яго ўключыў, бо можа прыйсці ў госці хрысціянін, іўдзей, або чалавек іншай веры, дык няхай крышачку і толькі крышачку для сваёй асалоды пакаштуе напою з татарскага кораню.

А зараз зноўку звернемся да ліста Ібрагіма Барысавіча Канапацкага і адкажам, чаму татары сяліліся каля водных аб'ектаў. Адказ тут толькі можа быць адзін. Гэта вера ў Аллага, гэта Іслам. Бо з нараджэння і да свайго скону мусульманін пры сваіх малітвах, святах, абрадах, паўсядзённасці павінен быць рытуальна чыстым. Рытуальная чысціня *(тахара)* з'яўляецца найгалоўным здабыткам з верай у Аллага і жыццём па запаветах прарока Мухаммеда і традыцыяй сапраўднага мусульманіна. А для гэтай чысціні вада з'яўляецца найпершым сродкам. Але і гэта не ўсё! Раней, дзе б ні быў татарын, заўсёды побач яго быў найпершы сябар – конь. Дык і гэтай незаменнай жывёле для падтрымкі сілы і моцы патрэбна вада, прычым толькі чыстая. А з старажытнасці татары думалі, што індыкатарам чысціні з'яўляецца аер. Так, аер, тая расліна, якая ў беларусаў, украінцаў, рускіх найбольш завецца татарскім зеллем...

Вось так у мяне ў адзін вузел звязаўся ліст дарагога мне Ібрагіма Барысавіча і гэты каштоўны прадстаўнік прыроды, які прыбыў у маю Беларусь з яго далёкімі продкамі!

**М. Маліноўскі**



# АШУРА

*(26 красавіка 1999 г. – Дзень жалобы)*

Дні жалобы – Ашура з 1 па 10 мухаррама ў мусульман, якія спавядаюць шыізм. Яны звязаны з пагібеллю імама Аль-Хусейна. Гэтае свята, акрамя назвы Ашура, яшчэ завецца Шахсей-Вахсей. Яно лічыцца галоўнай датай рэлігійнага каляндара ў шыітаў.

Памерлыя аддзелены ад нас, жывых, сцяною.
Мы іх не можам адчуваць, не бачым і не чуем.
Яны пайшлі ў небыццё, адкінулі зямное,
Яны спяшаюцца на Страшны суд, прызначаны Аллахам.

*(Абу-ль-Атахія: 748 г. - 825 г.)*

Шыізм – гэта другое па ліку паслядоўнікаў цячэнне ў Ісламе *(арабскае: шыа Алі – партыя Алі)*. Пачатак шыізму паклала група прыхільнікаў Алі – стрыечнага брата Мухаммеда, якая дабівалася абрання Алі каліфам. Для даведкі: беларускія татары вызначаюць Іслам суніцкага вялікага адгалінавання.

У шмат з каго можа ўзнікнуць пытанне, чаму Ашура мае яшчэ ў народзе назву і Шахсей-Вахсей? Рытуальная праграма жалобнага мерапрыемства ў гонар святога імама ўключае і самотныя працэсіі, у якіх людзі самаааддана горка і гучна паўтараюць такія словы: "Шах Хусейн, вах Хусейн! Шах Хусейн, вах Хусейн!", што ў натоўпе зліваецца і гучыць як "Шахсей-Вахсей", "Шахсей-Вахсей", на беларускую мову яны перакладаюцца: "Уладыка Хусейн, о гора Хусейн!", "Уладыка Хусейн, о гора Хусейн!".

Кім быў імам аль-Хусейн? Ён быў сынам Алі, унукам прарока Мухаммеда і ў змаганнях, барацьбе за сапраўдныя чалавечыя правы для ўсіх, за справядлівасць атрымаў мучаніцкія пакуты і смерць.

Канешне, такі чалавек, якім быў Хусейн, вызывае ў людзей спагаду, у іх ён запамінаецца па спадчыне і служыць добрым прыкладам для жыцця нашчадкаў. Таму ў дні жалобы Шахсея-Вахсея, на самотных цырымоніях расказваецца аб пакутніцкай пагібелі імама

аль-Хусейна ў імя людзей, паказваюцца сцэны *(карціны)* з яго жыцця.

Як адзначаюць гісторыкі і знаўцы шыізма, к XVI стагоддзю ў персаў і знаходзячыхся побач княствах склаўся культ імама аль-Хусейна, а дзень яго смерці быў аб'яўлены кіраўнікамі гэтых дзяржаў нацыянальнымі днямі жалобы – Ашурай.

28 сакавіка 1997 г. ў Менску сапраўдны мусульманін, шчыры і шчодры чалавек, слаўны сын двух народаў – Крыма і Беларусі, ветэран вайны і працы Ісмаіл Ісмаілавіч Меметаў падараваў мне кнігу "Мусульманские праздники". Вось якую вытрымку з яе ў сваім перакладзе ўзяў, дзе пішацца, што Ашура выпадае на 10 Мухаррама 61 г. Хіджры *(10 кастрычніка 680 г. н.э.)*: "На працягу першых дзесяці дзён месяца Мухаррам наладжваюцца містэрыі, інсцэніруючыя пагібель Хусейна, урачыстыя чытанні сказанняў аб ім, на вуліцах вывешваюцца жалобныя флагі і лозунгі. На дзесяты дзень адбываецца ўрачыстае шэсце – аплакванне Хусейна, вядомае пад назвай таазійе *(перс. – аплакванне)*. Таазійе, праходзячае перад мячэцямі, або ў спецыяльна адведзеных месцах, пачынаецца з прапаведзі муллы. Казанне завяршаецца спевамі хору хлопчыкаў, пад час якога перад глядачамі рухаецца працэсія. Іншы раз яе ўдзельнікі, падкрэсліваюць сваю тугу і напамінаая аб крывавай бітве, у якой загінуў Хусейн, наносяць сябе кровапралітныя раны".

Падкрэслю, што згодна законаў былых саюзных рэспублік, такія рытуальныя з'явы, звязаныя з нанесеннем сябе ранаў, забаронены законамі яшчэ ў 1929 г., гэта ў Азербайджане, Грузіі, Туркменістане. Таму найбольш зараз практыкуецца хатняе аплакванне. Тое ж датычыцца шыітаў і ў нашай краіне, рэлігійная арганізацыя якіх зарэгістравана ў нашай рэспубліцы.

Жалоба – гэта стан смутку, і калі яна праводзіцца ў гонар вялікіх людзей, такіх як аль-Хусейн, дык яна мае моцны псіхалагічны ўплыў і, канешне, мае выхаваўнае значэнне не толькі для вернікаў, але і для ўсіх людзей!

Вялікі Саадзі пісаў:

Калі гора чужое цябе не прымусіць смуткаваць,
Магчыма ці цябе чалавекам тады называць?
Таму і помняць шыіты свайго імама аль-Хусейна,
таму ў іх і такія велічныя рытуальныя працэсіі.

**М. Маліноўскі**



# ДЗЯРЖАВІН І БАГРЫМ

*Прысвячаю светлай і незгасальнай памяці Якава (Якуба) Адамавіча Якубоўскага, майго вялікага і шчырага сябра і дарадцы.*

Міхась! Усе твае прапановы цікавыя, але найбольш падыходзячай (...), як мне здаецца, будзе тэма пра паходжанне назвы Баранавічы, бо тут можна пагаварыць пра татар, нават пра татарскія карані Багрыма.

*Словы Я.А. Якубоўскага на ксеракопіі нарыса "Баранавічы" С. Александровіча (часопіс "Беларусь", № 12, 1953 год).*

Даведка. Пра паходжанне назвы г. Баранавічы ў мяне выйшлі матэрыялы:
"Адкуль пайшла назва..." *("Народная трыбуна", 26 красавіка 1997).*
"Сцяпан Александровіч і Баранавічы" *(навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 75-угодкам Сцяпана Хусейнавіча Александровіча (1921–1986). Матэрыялы канферэнцыі. Мінск, 1998).*

Не, не, вялікі рускі пісьменнік, дакладней сказаць паэт Гаўрыіл Раманавіч Дзяржавін, які пакінуў пасля сябе такія вешчыя радкі:

Не заключит меня гробница,
Средь звёзд не превращусь я в прах...

і самы загадкавы, і таямнічы былы жыхар з знакамітага мястэчка Крашын (Крошын), зараз Баранавіцкі раён, Паўлюк Багрым, якому прыпісваецца аўтарства верша "Заграй, заграй, хлопчэ малы...", люстры, што ўпрыгожвае цяпер мясцовы касцёл, ніколі асабіста не сустракаліся, не ведалі друг друга, больш таго, адзін ужо на схіле свайго жыцця пры двудушным Аляксандры І папаў у апалу, а другі толькі нарадзіўся, але для некаторых параўнанняў усё ж прывядзем іх гады жыцця: Дзяржавін *(1743–1816)*, Багрым *(1813(?)–1891(?)*.

Ці быў звязаны з рускімі землямі Паўлюк Багрым, нам сёння невядома, бо прыдуманыя ў XX стагоддзі яго рэкруцтва ці катаржанства дакументальна пакуль што аніяк не пацверджана, затое ёсць архіўная папера, што менавіта ў тыя гады, у якія псеўдавучоныя лічылі яго рэкрутам, ён спакойна жыў у сваім Крашыне і займаўся звычайнай сялянскай працай, тамака пералічаны і яго браты, і сёстры.

Затое Гаўрыіл Дзяржавін неаднойчы бываў на Беларусі, нават у сваёй уласнасці меў землі, вёскі і прыгонных у Віцебскай вобласці, у Крашыне ж, дзе жыў П. Багрым, ніколі ён не быў.

Цікавыя звесткі пра Г.Р. Дзяржавіна і нашую краіну ёсць у кнізе паэта і вучонага Алега Антонавіча Лойкі "Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд" *(Мінск, "Вышэйшая*

*школа", 1989)*, у яе першай частцы *(стар. 38)*: "Двойчы ў 1800 г. надзвычайнымі паўнамоцтвамі ад самога цара *(маецца на ўвазе імператар Павел I, які шмат добрага зрабіў для Беларусі. – М.М.)* пабываў у Беларусі вядомы рускі паэт, сенатар Г.Р.Дзяржавін. Вось запіскі паводле яго рэляцый, зацверджаныя Паўлам I. У адной з іх дакладвалася: "... Кіруючыся да мястэчка Лёзны, па дарозе выявіў ён *(Дзяржавін. – А.Л.)*, што ў паселішчах памешчыка Драздоўскага сяляне ядуць бурду, звараную з нейкім дамешкам мукі і шчаўя..., а ў вёсках князя Агінскага – крайні ў хлебе недахоп, запасаў ніякіх няма, сяляне ядуць вельмі дрэнны (*"весьма дурной"*) хлеб, змешаны у большай частцы з мякінаю".

Не менш цяжкія ўражанні вывез Г.Р. Дзяржавін і са сваёй другой камандзіроўкі. Ён, як сведчаць тыя ж дакументы, прыехаўшы на Беларусь, "асабіста выявіў вялікі недахоп у пасялян у хлебе або, лепш сказаць, самы моцны голад, бо жывіліся амаль усе *(курсіў наш. – А.Л.)* паранаю травою з перасыпкай самай малой колькасцю мукі або круп – ... худыя і бледныя, як мёртвыя...".

Асабіста Г.Р. Дзяржавін зрабіў усё, што мог, каб палепшыць хоць колькі-небудзь матэрыяльны стан прыгоннага беларускага сялянства. Як пісаў ён сам, "маёнтак князя Агінскага, у прыклад і на страх іншым, загадаў узяць пад апеку *(канфіскаваў. – А.Л.)* і даручыў з даходаў безадкладна закупіць патрэбную колькасць збожжа і раздаць яго сялянам, а затым губернскаму праўленню прапанаваў, каб усім уладальнікам з нарачнымі перадалі, што з маёнткамі іх дакладна будзе зроблена тое самае, калі не прымуць мер па выжыўленню".

Вось такія цікавыя і важкія крокі пакінуў на нашай зямлі Г.Р. Дзяржавін, але больш пра гэта можна прачытаць у займальных і павучальных кнігах беларускага рускамоўнага пісьменніка С. Букчына.

Але чытач можа задаць пытанне, пры чым тутака да Дзяржавіна Багрым? Але спяшацца не трэба, бо, як аказалася, Дзяржавін быццам рускі і не рускі па паходжанню, і Дзяржавін, і не Дзяржавін па продках... Канешне, ён Дзяржавін, але...

... Вядомы публіцыст Уладзімір Іванавіч Панаеў *(1792–1859)* у часопісе "Вестник Европы" за 1867 г. у нумары № 9 надрукаваў свае "Воспоминания". Нечакана для сябе я звярнуў там сваю ўвагу вось на гэтае, дзе Дзяржавін яму гаворыць: "Так возьми хоть "Василия Тёмного", что лежит сверху; тут выведен предок мой Багрим".

Адразу ж скажу, што гэтыя радкі мяне моцна ўразілі, захвалявалі, нават падкінулі са стула. Цераз паўгадзіны ў мяне пачала падымацца тэмпература, а потым з'явіліся праменні плана росшукаў, якія б маглі пацвердзіць словы Панаева. Ува ўласнай бібліятэцы нічога вартага і новага пра Г.Р. Дзяржавіна я не знайшоў, а дапамаглі мне ў гэтай працы добрыя працаўніцы абанементнай залы цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Валянціна Таўлая, якія выклалі перада мной маючыяся кнігі пра паэта.

Перагартаўшы дома гэтую літаратуру, зразумеў, як да гэтага вельмі мала ведаў пра Г. Дзяржавіна, яго паэзію, але разам з тым знайшоў тое, што і шукаў. Але ўсё ж зноўку вярнуся да

Уладзіміра Іванавіча Панаева, дальняга суродзіча Дзяржавіна, да іх размовы, адкуль даведаўся пра багрымаўскі род паэта: "– Я и не знал, что вы так много упражнялись в драматической поэзии; я думал, что вы написали одну только трагедию "Ирод и Мариамна". – Целых пять, да три оперы", – отвечал он. –"Играли ли их на театре?" – "Куда тебе, теперь играют только сочинения князя Шаховского, потому что он всем там распоряжается. Не хочешь ли прочитать которую-нибудь?" – "Очень хорошо". – "Так возьми хоть "Василия Тёмного", что лежит сверху; тут выведен предок мой Багрим".

У паясненнях да слоў "... предок мой Багрим" з тых жа кніг выпісаў: "В примечании к стихотворению "Приношение к императрице" Дзержавин писал, объясняя свой стих "Последний род Багрима": "Под сим автор разумел предка его Багрима, выехавшего из Золотой Орды на службу к великому князю Василию Васильевичу Тёмному, от коего дети были Нарбек, Кегл, Акинф и Держава; от них пошли роды: Нарбековы, Кеглевы, Акинфовы и Державины; сие в бархатной дворянской книге и в грамоте на дворянство Державина видеть можно..." А потым пачаў праглядаць кожную старонку твораў Г. Дзяржавіна, прычым рабіў гэта па некалькі разоў, каб не прапусціць нешта вартае і невядомае для сябе. Вось перада мной "Послание Мурзы Багрима к царевне Доброславе":

Мурза, Багримов сын, царевне Доброславе
Желает здравия, всех благ её державе:
Чтоб розами уста, в лилеях грудь цвела,
Чтоб райскою росой кропил тебя алла
И вознёсся престол как солнце твой высоко,
Хранил тебя на нём яко зеницу ока
(1796 ?)

Зноўку прозвішча Багрым знаходжу ў радках "Издателю моих сочинений":

В угодность наконец общественному взгляду
Багрим к тебе пристал татарских мурз с гудком;
Но с вздохом признаюсь, в нём очень мало ладу;
И то уже порок: я смел блистать умом.
(1808)

У сваіх знакамітых "Записках из известных всем происшествиев и подлинных дел, заключающих в себе жизнь Гаврилы Романовича Державина" паэт пісаў: "... доказал истинное дворянское происхождение явленных недорослей от рода Багрима мурзы, выехавшего из Золотой Орды при царе Иване Васильевиче Тёмном, что явствует в Бархатной книге вообще с родами: Нарбековыми, Акинфиевыми, Кеглевыми и прочими...". Па сваёй волі ён быў ужо абруселы, як і родныя яго роды Нарбековы, Кеглевы, Акинфовы, быў праваслаўным. Але, як бачна, па яго жыцці і царскай працы ён ніколі не саромеўся, што яго продкі былі татарамі, і сам ён быў паважлівы і ўважлівы і да мусульманаў, і да іўдзеяў, і да каталікоў...

Таму, мабыць, першым з вялікіх рускіх паэтаў Г. Дзяржавін мог так напісаць:

Я памятник себе воздвиг чудесный, вечный,
Металлов твёрже он и выше пирамид;
Ни вихрь его, ни гром не сломит быстротечный,
И времени полёт его не сокрушит.
(...)

А зараз мы падыдзем да Паўлюка Багрыма. Так, як бачна, калі з цягам часу змянілася прозвішча Дзяржавіна з Багрыма, бо адзін з іх імя Дзяржава вырашыў зрабіць прозвішчам Дзяржавін, дык з Паўлам Іосафічам Багрымам тут вызначэнні цяжэй, але калі "увайсці ў плынь папераў", дык таксама можна знайсці тутака нешта агульнае і аб'ядноўваючае, акрамя роду Багрым...

Але давайце, калі ласка, спачатку адкрыем 4-ты том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" і зробім з адной яе старонак выпіску: "Крошын, вёска, цэнтр сельсавета ў Баранавіцкім раёне, за 15 км на ПНУ ад г. Баранавічы, чыг. ст. на лініі Баранавічы – Мінск". Потым ідзе аповяд аб уладальніках гэтага мястэчка ў мінулым, іншыя звесткі, тройчы гаворыцца аб П. Багрыме. Аўтар гэтага матэрыяла Уладзіслаў Вяроўкін Шэлюта.

Як каму, а мне гэтыя энцыклапедычныя нататкі падаліся псеўданавуковымі, бо там шмат недакладнасцяў, яшчэ больш лухты і зусім не гаворыцца, што калісьці мястэчкам Крашын-Крошын валодаў татарын князь Малікбаша, які з'яўляўся раднёй самому цару Перакопскаму – Махмету Гірэю. Так што беларускім гістарычным энцыклапедыстам у мяне мала веры. А каб упэўніцца ў тым, што князь Малікбаша жыў і служыў на Беларусі, дык можна пагартаць Акты Віленскай Камісіі, Т. 31, Акты літоўскіх татараў *(Вільня, 1906)*. Там жа можна даведацца, што акрамя самога ўладальніка Крашына татарына князя Малікбашы, у ім жылі і іншыя прадстаўнікі стэпавага народу.

Пры сваім жыцці і ў сваёй кватэры Якаў *(Якуб)* Адамавіч Якубоўскі аднойчы разгарнуў цяжкі фаліянт "Гербы радоў татараў у Польшчы" Станіслава Дзядулевіча, выдадзены на польскай мове ў Вільні ў 1929 г. Дык у ім, калі размова ідзе пра Крашын, шмат разоў упамінаецца мурза *(князь)* Багрынскі *(Бахрынскі)* пад гадамі 1516, 1528, 1561. Як сказаў Якуб Адамавіч, так палякі тады пісалі татарына Багрыма *(Бахрыма)*.

Дык што атрымоўваецца, што калісьці і Дзяржавіны і Багрымы атабарыліся ў Маскоўскую Русь і Літоўскую Русь з аднаго і таго ж княскага роду (мурзы) Багрыма.

Я не першы завёў размову аб татарскіх каранях Паўлюка Багрыма. Задоўга да мяне зрабіў гэта дзівосны і самабытны паэт Анатоль Сыс. І гэта ў яго выдатна атрымалася ў працы "Радзіма Паўлюка Багрыма ў мінулым" *("Полымя", № 2 – 88, стар. 180–186)*, але той,

хто пажадае прачытаць гэты артыкул у ненавуковым і прымітыўным зборніку "Паўлюк Багрым" *(1994),* дык марная праца. Яна, гэтая кніга, выйшла пад рэдакцыяй Анатоля Сабалеўскага, які спецыяльна разам з укладальнікамі Верай Ляшук, Аляксеем Майсейчыкам, вырашылі хаваць ад людзей працу А. Сыса, каб беларусы не ведалі, што Паўлюк Багрым мог мець татарскія карані.

А. Баркоўскі ў сваіх крытычных нататках "Чаму Анатоль Сабалеўскі не заўважыў Анатоля Сыса?" ("Байрам", № 4–94) на старонках 49–50 піша: "На заканчэнне распавяду пра радзіму Паўлюка Багрыма да і пасля 1828 г. Хацелася б выказаць адну здагадку пра яго самога, а дакладней – пра яго паходжанне. Магчыма "беларускі Шаўчэнка" (Максім Гарэцкі) паходзіў з татараў. Па-першае,– у Крошыне, як мы ведаем, жыло шмат крымскіх татараў, па-другое,– кавальства было развіта асабліва сярод тых жа татараў, па-трэцяе,– у 10-х – 20-х гадах нашага стагоддзя прозвішча паэта гучала і пісалася Бахрым. І, нарэшце, як паказвае этымалагічны слоўнік беларускай мовы, прозвішча Бахрым альбо Багрым магло ўтварыцца хутчэй за ўсё ад старажытнаіранскага імя Бахрам (пераможны, які праганяе злога духу Урытру), ці ад цюркізму "бахрама", крымска-татарскае "махрама" (вэлюм для маладой), ці ад "багра" – пурпуровая фарба. У заходнеславянскіх мовах гэтага слова няма, і паходжанне ягонае няяснае, мовазнаўцы ж Менгес, Трубачоў стаяць за цюркскую крыніцу.

Але тое, што Паўлюк Багрым быў сваім паходжаннем з крымскіх татараў – толькі здагадка. Наперадзе новыя пошукі, якія магчыма высвятляць ягоную постаць з далёкіх гадоў мінуласці".

Мо за гэтую здагадку Анатоль Сабалеўскі і забыўся на Анатоля Сыса?

Да ўсяго гэтага мушу дадаць, як сведчыць слова "багрым", дык яно татарскае і азначае "сэрца маё" "душачка".

Шчыра скажу, я поўнасцю згодны з меркаваннямі і А. Сыса, і А. Баркоўскага, як і з тым, колькі ўсё ж дзівосаў маецца ў свеце, што, як аказваецца, і Дзяржавін і Багрым маглі быць паходжаннем з аднаго і таго ж татарскага роду Багрымаў.

У падоранай мне кнізе Яўгена Гучка "Формула травы" Якубам Адамавічам ёсць дзіўныя філасофскія словы:

Ва ўсім, што вытварае чалавек,
Здаецца, патаемны ёсць
Суаўтар.

Дык так з гэтым матэрыялом адбылося і ў мяне!

**М. Маліноўскі**



# Пробныя артыкулы для энцыклапедыі "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы"

**МЕДРЭСЕ** *(араб. мадраса, ад дараса – вывучаць)*. Сярэдняя і вышэйшая мусульманская навучальная ўстанова для падрыхтоўкі служыцеляў культу, настаўнікаў пачатковых мусульманскіх школ, а таксама служачых дзяржаўнага апарата ў краінах Блізкага і Сярэдняга Усходу. Медрэсе атрымалі пашырэнне ў IX–XIII ст.ст. у краінах, дзе пераважала насельніцтва, якое вызнавала Іслам. Медрэсе адкрываліся звычайна пры вялікіх мячэцях. У навучальнай праграме медрэсе – арабская мова, тэалагічныя, юрыдычныя, гістарычныя і іншыя прыкладныя дысцыпліны. Медрэсе дзейнічаюць на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі *(у Казані, Маскве, Грозным, Махачкале, Уфе)*, а таксама ва Узбекістане *(Міры-Араб у Бухары)*, Азербайджане *(Баку)*.

Як тып арх. збудавання склалася ў X–XI ст.ст. 1–2 павярховы будынак медрэсе ўключае размешчаныя вакол прамавугольнага ці квадратнага двара мячэць ці малітоўную залу, аўдыторыю, келлі, пахавальню заснавальніка. Медрэсе розных рэгіёнаў адрозніваюцца планіроўкай і канструкцыямі: у Сярэдняй Азіі мячэць і аўдыторыя размяшчаюцца ў корпусе па баках цэнтральнага партала, у Сірыі і Егіпце яны займаюць памяшканні на цэнтральных восях двара ці адкрытыя ў двор айваны *(скляпеністыя залы)*, толькі ў Турцыі двор медрэсе перакрываўся вялікім купалам, у Цэнтральнай і Пд. Азіі звычайна выкарыстоўвалі скляпеністыя перакрыцці, у Пн. Афрыцы – крокенныя дахі. Медрэсе аздаблялі разьбой, паліваным і размаляваным дэкорам: медрэсе Бу-Інанія ў г. Фес *(Марока, XIV ст.)*, Улугбека *(XV ст.)* і Шыр-Дор *(XVII ст.)* у Самаркандзе, Міры-Араб у Бухары *(XVI ст.)*.

У 1397 г. паводле дамовы Вялікага князя літоўскага ВІТАЎТА і звергнутага з трона хана Залатой Арды ТАХТАМЫША некалькі тысяч татараў накіраваліся з сем'ямі з Прычарнамор'я і Крымскага паўвострава ў Вялікае княства Літоўскае і пасяліліся паблізу Вільні, Навагрудка, Ліды, Мінска, Брэста, Гродна. На новых землях татары-мусульмане пабудавалі мячэці, адкрылі мусульманскія школкі *(медрэсе)*. У наступныя гады мусульманскія школкі ствараліся ў кожным населеным пункце, дзе жыла значная колькасць татараў. Навучаннем дзяцей займаўся альбо сам кіраўнік мусульманскай абшчыны – імам, або яго памочнік – мязім *(муэдзін)*, або спецыяльна прызначаная для гэтага асоба – годжый *(настаўнік)*.

У вялікіх татарскіх паселішчах медрэсе *(мусульманскія школы)* знаходзіліся ў спецыяльных дамах. У перадваеннай Польшчы пры кожнай мячэці быў парафіяльны дом. У Іўі будынак для мусульманскай школы быў пабудаваны ў 1922 г. за грошы татараў-эмігрантаў, якія выехалі перад Першай сусветнай вайной і засталіся

там. Але большасць мусульманскіх школ знаходзіліся ва ўласных сядзібах настаўнікаў-годжыяў *(С. Думін, І.Канапацкі. Беларускія татары. Мінулае і сучаснасць. Мінск, 1993)*.

**Г. Сергачоў**

**МАНГОЛА-ТАТАРСКАЯ НЯВОЛЯ НА РУСІ**, сістэма панавання мангола-татарскіх феадалаў над рускімі землямі ў XIII–XV ст.ст. Была ўстаноўлена ў выніку мангольскіх заваяванняў хана БАТЫЯ ў 1236–1242 гг., калі мангола-татары заваявалі землі волжскіх балгар, мардвы, Паўночна-Усходнюю і Паўднёва-Заходнюю Русь, пранiклі ў Польшчу, Венгрыю, Балгарыю. Рускія княствы не ўвайшлі непасрэдна ў склад Мангольскай феадальнай імперыі і захавалі мясцовую княжаскую адміністрацыю. На першым часе рускія землі ўтрымліваліся ў падпарадкаванні пры дапамозе мангольскіх пасланнікаў, якія сустракаліся еўрапейскім падарожнікам, што праязджалі ў Манголію праз рускія землі. Рускія князі былі даннікамі мангола-татарскіх ханаў і атрымлівалі ад іх ярлыкі на ўладанне сваімі княствамі. На тэрыторыі Русі не было пастаяннага мангола-татарскага войска. Для збору даніны на рускія землі пасылаліся асобыя чыноўнікі-баскакі, а калі патрабаўся надзвычайны збор, выязджалі спецыяльныя паслы з войскамі, надзеленыя вялікімі ваенна-адміністратыўнымі паўнамоцтвамі. Да пачатку 60-х гадоў XIII ст. Русь знаходзілася пад уладай вялікіх мангольскіх ханаў, а затым ханаў Залатой Арды. Для вызначэння колькасці плацельшчыкаў даніны ў 1245, 1257–1259 і 70-х гадах XIII ст. мангола-татарамі былі праведзены перапісы насельніцтва Русі. Адзінкамі абкладання былі: у гарадах – двор, у сельскіх мясцовасцях – гаспадарка (*"вёска", "саха", "плуг"*). Ад даніны вызвалялася толькі духавенства, якому выдаваліся адмысловыя тарханныя *(ільготныя)* ярлыкі. Вядома 14 відаў "ардынскіх цяжараў", з якіх галоўнымі былі: "выхад", або "царская даніна" – падатак непасрэдна для мангольскага хана, гандлёвыя зборы (*"мыт", "тамка"*), падводныя павіннасці (*"ям", "падводы"*), утрыманне ханскіх паслоў (*"кармленне"*), розныя "дары" і "ганараванні" хану, яго родзічам, прыбліжаным і г.д. Штогод з рускіх зямель збіралася ў выглядзе даніны вялікая колькасць срэбра. "Маскоўскі выхад" складаў 5–7 тысяч рублёў срэбрам, "наўгародскі выхад" – 1,5 тысячы. Перыядычна збіраліся вялікія "запыты" на ваенныя і іншыя патрэбы. Акрамя гэтага, рускія князі абавязваліся па загаду хана пасылаць воінаў для ўдзелу ў паходах і аблаўных паляваннях. У канцы 50-х – пачатку 60-х гадоў XIII ст. даніну з рускіх княстваў збіралі мусульманскія купцы-"бесермены", якія адкуплялі гэта права ў вялікага мангольскага хана. У выніку народных паўстанняў 1262 г. у рускіх гарадах "бесермены" былі выгнаны. Абавязак збору даніны перайшоў да мясцовых князёў. Гэта ўмацоўвала палітычную і ваенную ўладу князёў. Маскоўскі князь Іван І Данілавіч Каліта *(1325–1340)* дабіўся права збіраць

"выхад" з усіх рускіх княстваў. З сярэдзіны XIV ст. загады ханаў Залатой Арды, не падмацаваныя рэальнай ваеннай сілай, рускімі князямі ўжо не выконваліся. Гаспадарчае аднаўленне рускіх зямель, узвышэнне Масквы і заняпад Залатой Арды *(з XIV ст.)* спрыялі актывізацыі барацьбы супраць мангола-татарскай няволі. Мангола-татарскае панаванне было паслаблена ў выніку паражэння войск Мамая ў Куліковускай бітве *(1380 г.)*. Аднак пасля пахода Тахтамыша і ўзяцця Масквы ў 1382 г. Русь была вымушана зноў прызнаць уладу мангола-татарскіх ханаў і плаціць даніну, але ўжо масковускі князь Васіль І Дзмітрыевіч *(1389–1425)* атрымаў вялікае княжэнне без ханскага ярлыка, як "сваю вотчыну". Пры ім мангола-татарская няволя насіла фармальны характар. Даніна выплачвалася нерэгулярна, рускія князі праводзілі ў значнай ступені самастойную палітыку. З утварэннем Рускай цэнтралізаванай дзяржавы вялікі князь масковускі Іван ІІІ у 1476 г. адмовіўся плаціць даніну, у 1480 г. спыніў на р. Угры ваенны паход на Маскву хана Ахмеда. Рускія землі канчаткова вызваліліся ад мангола-татарскай няволі.

Па пытанню аб уплыве мангола-татарскага панавання на гісторыю рускага народа існавалі разныя погляды. Адны гісторыкі надавалі мангола-татарскаму панаванню рашаючую ролю ва ўтварэнні Рускай цэнтралізаванай дзяржавы *(М.М. Карамзін, М.І. Кастамараў)*, іншыя *(С.М. Салаўёў, В.В. Ключэўскі)*, адстойваючы канцэпцыю аб узнікненні дзяржаўнасці на Русі ў выніку "унутранага", "арганічнага развіцця", адмаўлялі наогул які-небудзь значны ўплыў мангола-татараў на рускую гісторыю. Сістэма мангола-татарскага панавання на Русі даследавалася ў савецкай гістарыяграфіі *(А.Н. Насонаў)*. М.Н. Ціхамiраў раскрыў ролю Масквы ў аб'яднанні рускага народа і ў барацьбе з мангола-татарамі. Л.В. Чарапнін паказаў, што Руская цэнтралізаваная дзяржава ўтварылася ў працэсе жорсткай барацьбы з мангола-татарскімі заваёўнікамі. Гісторыкі Г. Вернаўскі, Л. Гумілёў і М. Фларынскі даказвалі прагрэсіўнае значэнне мангола-татарскага панавання на Русі.

### Літаратура


Насонов А.Н. Монголы и Русь. М.-Л., 1940;

Тихомиров М.Н. Средневековая Москва в XIV-XV вв. М., 1957;

Греков Б.Д., Якубовский А.Ю. Золотая Орда и её падение. М.-Л., 1950;

Черепнин Л.В. Образование русского централизованного государства. М., 1980.

Flarinsky M., Russia. A history and an interpretation. v. 1, N. 4, 1953.


**І. Канапацкі**

